## 1. КРОКІ…

***

О, свет цудадзейны, о свет звышвыродны,
Ты сэрцу чужы так і гэтак жа родны.
Таемнасць тваю не спазнаць між прыроды:
Дзе горычы прысак і боль асалоды,
Дзе ночы бываюць святлей за світанкі,
А джала змяі – лепш чым вусны каханкі.
Дзе дні перапоўнены злом і агідай,
І лепшы твой сябра – пачварней ад гніды,
Дзе радасці безліч і гора так многа,
І дзе пераблыталі д'ябла і Бога.

Табе не знайсці ні канца, ні пачатку,
На кожным сваю астаўляю пячатку:
Каму – боль і слёзы, каму – асалоду,
Ці блазнам каму быць, ці князем ад роду,
Камусьці жыццё пры багацці правесці,
Ці рэшткі аб'едкаў нікчэмныя есці.

Ты – радасці плынь і крыніца адчаю,-
Якія, як дар найвышэйшы прымаю:
І брудныя вулкі, і брыдкія словы,
І морак імглісты, і час вечаровы,
І нават хвіліны падману і здрады
Спазнаць і спасцігнуць – душою я рады,
Чуць спеў салаўіны і крыкі вароны…
Ты радасцю будзеш і болем да скону,
Дзе светла заўжды так, нясцерпна і млосна…
О, свеце агіды! О,свеце дзівосны!

***

Пакіньце мяне аднаго
У гэтым пустым пакоі.
Хай будзе са мною Бог,
Надзеі мае і мроі.

Хай будзе са мною ноч
І свечак на небе ззянне,
Яе светлы цень наўзбоч –
Маё незямное каханне.

Хай будзе са мною сон
Салодка-мярэжны і вечны,
Што возьме мой дух у палон,
І розум, і боль чалавечы.

Хай будзе ў мяне ўсяго
Адно толькі доля ізгоя –
Пакіньце мяне аднаго
У гэтым пустым пакоі.

***

Можна знішчыць любую красу –
Квецень саду, надзею, каханне.
Што, скажыце, з сабой панясу
Я ў халоднае золкае ранне?

Боль? Ці бруд, што ляжыць на двары,
Што з’явіўся вясною з-пад снегу?
Ці свой горб анямела-стары?..
Не прыдбаю я хуткага бегу.

Мне б дабрацца адно да мяжы
Хоць паўзком ці знясіленым крокам,
Той мяжы, што за хатай ляжыць…
Ды ісці да яе так далёка.

***

Я – грэшнік,
Хай стаю штодзень у храме
І шчырыя малітвы ўсе мае.
Грашней за ўсіх я тых, хто побач з намі,
Бо мужнасці і моцы не стае
Прыняць грахі чужыя за свае.

***

Нехта ляціць да зор,
Нехта ў райскай даліне
Палюе на райскіх птахаў.
Іду я лясной сцяжынай
па грыбы і ягады
і восенню,
і зімою.
Вы скажаце,
Што такога не бывае?
Спытайцеся пра гэта
Ў рыжай векшы,
Што ў старажытным дупле,
Адзінокая,
Часу імгненні збірае.

***

За даляглядам Еўропы схаваная ноч,
За даляглядам Амерыкі дзень палымнее.
Кроў арабіны і хата старая наўзбоч.
Поле, клады, крыж пахілы,які не чарнее.

Крокі няспешныя бацькі на полі нямым,
Ходзіць за плугам штодня ён, не знаючы стомы.
Зерне надзеі ён кропіць у нетры зімы…
Толькі ніколі яму не вярнуцца дадому.

Стол не накрыць, не паклікаць мяне за сабой
Светлаю ноччу ці ў золкі вясёлкавы ранак.
Вокны сляпыя зацягнуты смутку смугой,
Попелам часу пакрыты знявечаны ганак.

Бацькава хата, ізноў да цябе я прыйшоў.
Колькі не бачыў! Ты думала, пэўна, загінуў?..
Золлю туману скрозь змрочную слоту снягоў
Капае долу халодная кроў арабіны.

Тут мая спадчына: песні, сцяжыны мае,
Поле, клады, пах п’янкі канюшышы і кропу…
За далягдядам Амерыкі дзень паўстае,
Сонца заходзіць за далеччу мройнай Еўропы.

## НАРОД

У кашулі зрэбнай немаўля,
Здалося мне, ідзе здаля.
Такі нямоглы і слабы,
З пакуты вечнай і журбы.

Калі ж ён прыпадняў гару
Адзіным дотыкам рукі,
Я пакланіўся святару,
Я зразумеў: хто ён такі.

***

Міг вечаровы. Парк. Алея.
Птушыны посвіст, пошум дрэў.
Час супыняецца. Мярцвее
Дзень, што сыходзіць не хацеў.

Між голля цень мільгнуў вавёркі
І растварыўся, як імгла.
Скрозь мур нябёс свіцяцца зоркі,
Вось і яшчэ адна ўзышла.

Ціш ахінае свет паволі,
Душа схіляецца да сну.
Пазбыцца б скаргаў, смутку, болю,
Хоць на хвіліну, на адну.

## ЧОРНЫ ПТАХ

Чорны птах нада мною кружляе;
Чорны птах мае вочы дзяўбе.
За цябе ён, напэўна, карае
І заб’е ён мяне праз цябе.

Па-над лесам плыву, па-над дахам;
П’ю вятры  і снягі, і дажджы.
Я і сам стаў даўно чорным птахам,
Што стаміўся на свеце больш жыць.

Я вітаю і ночы, і ранне
І не страшыць ні смерць, ні палон,
Бо ў тваё я не веру каханне
І яно толькі прывід і сон.

Святарам я не веру, манахам
І слязе, што сцякла са шчакі.
Мне па вечнасці плыць чорным птахам
Праз гады і пакутаў вякі.

Чорны птах няхай выклюе вочы
І да смерці няхай ён заб’е.
Я нікуды з дарогі не збочу,
Заплачу за пакуты твае.

***

Адзін на свеце белым.
Адзін… Ну, хоць памры!
Сабакам адзічэлым
Ноч вые на двары.

Знявер'е, боль і скруха
На сэрцы і душы.
Канае завіруха
На могілках шашы.

І ні кажух, ні печка
Не здолеюць сагрэць.
І моўчкі гасне свечка –
Стамілася гарэць.

Стамілася надзею
І свята мне вяртаць.
І я не знаю – дзе я?
А мо не варта – знаць?..

## ПЕРШЫ КРОК

Зрабіць бы толькі першы крок,
Набрацца мужнасці і моцы,
А там – другі, а там – скачок,
А там – ляціш, бо спрыту – досыць.

Калі ўжо ўзведзены курок
І жахам сэрца разрывае –
Зрабіць бы толькі першы крок,
А там... Там – смерці не бывае.

## КУТ

У кут збягаюцца ўсе дарогі,
і ўсе шляхі зыходзяць з яго.
Ён – вязніца.
Ён – бязмежжа.
Ён – воля.
І – няволя.

Кут – пакаранне
І дар Божы.
З яго пачынаю свае вандроўкі
І вяртаюся да яго
З усіх сцяжынак і прастораў.

Тут, за партрэтамі родных і блізкіх,
Жыве мая памяць.
І праз гады
Кут ніколі не старэе,
Вяртаючы маладосць тым,
Хто даўно пастарэў.

Зноў спяшаюся да цябе,
Родны кут,
Куточак,
Куцця…

***

Стаю на падворку роднай хаты,
Галавою ўпёршыся ў неба,
Нагамі праросшы скрозь зямлю.
Стаю і не бачу
Ні бацькі,
Што плугам неба гарэ;
Ні матулі,
Якая рэчку палошча;
Ні нават ката,
Што быка, нібы мыш, цярэбіць;
Ні сябе –
Хлапчука-падпаска,
Які з вясёлкі
Пугу сплятае…
Які я маленькі.

***

Тысячы крокаў зрабіў,
Застаўся адзін крок
Да мэты дайсці,
Ды толькі
Назад азірнуся –
За сабою
Не бачу сваіх слядоў…
Як крок мне зрабіць
Свой першы?..

## ДВУБОЙ

Я сёння выйшаў на двубой
Не з ворагам – з самім сабой.

Стаім маўкліва – твар да твару,
Чакаем існасці штуршка:
Хто першым з нас дваіх ударыць,
Чыя не падвядзе рука?

Як вечнасць цягнуцца хвіліны,
Прастора знікла, час застыў…
Я месца гэтае пакінуў
Ужо не тым, якім я быў.

***

Стаяў каля брамы касцёла
Адзін валацуга стары,
Рукою дрыжачаю, кволай
Збіраў ён людскія дары.

Ды нехта, знарок мо ці смехам,
Не дар яму – камень паклаў,
І раптам той камень пацехі
Агнём зіхатлівым заззяў.

Асыпаўся золатам долу…
Знямеў і аслеп жартаўнік.
Нікога не стала наўкола,
Жабрак-валацуга той знік.

І толькі сляпы і знямелы,
Ля брамы стаяў сам не свой
Крыўдзіцель у строях струхнелых,
З працягнутай кволай рукой.

***

Цябе я часта крыўдзіў, мама,
Непаслухмянасцю сваёй.
І,як жабрак ля брамы храма,
Малітвай жыў,але не той.

Губляў свой воблік чалавечы
Сярод нуды, сярод бяды...
Я думаў, побач будзеш вечна –
Ды памыліўся, як заўжды.

Цяпер, калі цябе не стала,
Я зразумеў, што перажыў
(Шкада, што вельмі позна, мама,)
Хрыстос, распяты на крыжы.

***

Засталіся толькі рэчы:
Стос паперы, гамы слоў.
Век кароткі чалавечы –
Нарадзіўся і пайшоў.

І глядзіш, ужо стаіш ты
Ля апошняе мяжы.
Прад сабою - змрок і ціша.
За сабою – міражы.

І няма калі падумаць,
І нічога не вярнуць.
Толькі стос папер і тлуму,
Шлях, які не абмінуць.

***

Музыка ў храме гучала,
Чулася песня сурмы.
У чорным жанчына стаяла,
Быццам бы прывід нямы.

Песня анёлаў лілася
З-пад купалаў залатых.
Маткаю Боскай здалася
Тая жанчына ў той міг.

Светлай пасланніцай раю,
Волі нябёс залатых.
Толькі вось з плоці, зямная,
З болю і смутку зямных.

У храм гэты, пэўна, патрэба
Сёння яе прывяла.
Вось і сышла яна з неба, Уся з цеплыні і святла.

Ды не сумеў разгадаць я,
І разглядзець я не змог,

Што да мяне маю маці
З неба прывёў сёння Бог.

***

Дождж маркотна грукоча аб дах,
На душу наганяючы жах,
Не заснуць ні на хвілю да рання.
За акном – шэпча вецер літанне,
І цвіркунчык цвіркоча з-за печкі,
Патухае агарачак свечкі.

Матчын дом. Кожны кут гэтай хаткі
Будзіць даўнія светлыя згадкі:
Дні зімовыя, светлыя вёсны,
Вечары, і матуліны кросны,
На якіх ткала песні нам маці,
Покуль мы падрасталі ўсе ў хаце.

А цяпер – толькі памяць, нічога,
Зарасла да падворка дарога,
Нават сцены згнілі і падлога,
І далёка – да дому, да Бога ...
Дом бацькоўскі, Радзіма святая! –
Дзе ты? Дзе? Ты – са мною... Світае.

***

Крочу вулкай начной ад Бярэсця да Млечнага Шляху.
Пада мной – пыл вякоў, нада мною – нябёсаў узор.
Я стаміўся тут жыць і я ў вечнасць шукаю атвор,
Каб пакласці сваю галаву на ахвярную плаху.

Дождж і снег, снег і дождж – безупынку грухочуць па даху,
Ля забытай капліцы анёлаў мне чуецца хор,
Ён – пра смерць напамін, ён – жыцця майго сумны дакор,
Перад боскім судом я не маю ні скаргаў, ні страху.

Я жыву, як магу, рады кожнай травінцы і птаху,
І любові святло не парушыць ніякі віхор.
Крочу вулкай начной ад Бярэсця да Млечнага Шляху,
Каб вярнуцца, прыйсці ў гэты дзень, гэты сад, гэты бор.

## ВОСЕНЬСКІЯ ЭЦЮДЫ

***

зажаўрэлі сады
рве лістоту вятрыска
дзень пераходзіць у ноч

***

з пунсовай ружы
слязінка зляцела
на лісця рудую іржу

***

на ледзь улоўны
сонца прамень
села пчала

***

ноч убівае цвікі дажджу
ў мокры асфальт

трава прарастае

***

плавіцца ноч
аб вуголле
зорак.

***

Вялікдзень. Музыкай святою
Прастор агучаны зямлі.
Як краскі весняю парою,
Навокал свечкі расцвілі.

Цвіце душа мая таксама,
І сэрца поўніцца святлом
Малітвы велічнай, што з храма
Жывым ільецца ручайком.

***

Я зноўку Менск наведаў. Ранне.
У лужынах люструецца вада.
Пляц Волі спіць. Касцёла белы дах
Нябёсам творыць светлае літанне.
Гатэль. Кінатэатр. І крама «Кніга».
У нетрах спіць стамлёная Няміга,
Не здолеўшы прабіцца да святла.
Карчма. Вітрыны. Я праходжу міма.
Вось постаць Багдановіча Максіма
Ля сходак тэатральных усплыла.
І загучала музыка святая…
Каму на золку вершы ён чытае
Ахутаны туманам залатым –
Свайму народу, прашчурам сваім?..
Ён кажа пра вясну, пра край наш белы.
Наводдаль самадайка сваё цела

На досвітку заспана прадае.
Вясновым ясным сонцам залюляны
«Тра-ля-ля-ля» - дзядок спявае п'яны,
Спрачаюцца пра нешта два Іваны…
А мне так Беларусі не стае.

***

Ні сцяжын, ні дарог
І не гмахаў высокіх.
Там квітнее мурог
Між бязважкіх аблокаў

Квецень сцелецца там –
Не хапае пагляду.
Узвышаецца храм
Сярод райскага саду.

Там святая імша
Сны зямныя люляе.
І мая там душа
Між аблокаў блукае.

***

«Усе шляхі вядуць да храма!»
О, каб жа гэтак і было:
Не стаў бы сховішчам ён хама.
Вакол не панавала б  зло.

Не мізарнела б тая вера,
Якой гандлююць за рублі.
І чалавек з аблiччам звера
Не панаваў бы на зямлі.

Ахвяр не поўнілася б яма,
І не шырэлі б рэкі слёз…
- Усе шляхі вядуць да храма,
Калі той храм на сэрцы ўзрос.

***

Ляцяць сняжынкі на зямлю,
Як пёркі зоркавага птаха:
На лёдам скутую раллю,
На сцежкі, на палі, на дахі.

На твар, на скроняў сівізну
І на душу маю таксама.
На тую светлую вясну,
Дзе вербніцу збірае мама.

***

Здаецца, што я ўсё сказаў.
Ды раптам выплюснуць на волю
З душы – адчай, з вачэй – сляза,
Як промні радасці і болю.

І верш, што доўга так драмаў,
Раптоўна ляжа на паперу,
Бы снег, якога не чакаў.
Як Божы дар – якому верыў!

***

Час прасвечвае прастору,
Зіхацяць дамоў агні.
Я вяртаюся ва ўчора,
Я  свае збіраю  дні.

Нібы пацеркі на нітку
Думкі я вяжу свае.
І душы маёй адбіткі
Дождж з калюжын прагна п'е.

ПОШУК РАДЗІМЫ

Вулкамі начнога Берасця йду
З берага Мухаўца на бераг Лясной,
Ад  стода Перуна
Да помніка Леніну**,**
Ад крэсаў усходніх
Да крэсаў заходніх,
І супыняюся на хвіліну
Ля помніка Адаму Міцкевічу
З надпісам:
«Ён тут не жыве».
Я тут не жыву таксама.

## ВЕЧАРОВАЕ

1

Паволі нікне сонца пас,
Алеяй паркаваю  крочу.
Сыходзіць вечаровы час,
Прыходзіць роспач разам з ноччу.

Блішчыць на небе маладзік,
Лісцё  на дрэвах не шапоча…
Але ў нябыце зніклы крык

Ніяк знікаць з грудзей не хоча.

2

Серабрыстымі ніткамі рос
Зачапілася сонца за вецце.
Па сцюдзёнай траве іх  растрос
Гаманлівы, гарэзлівы вецер.

Ды сваёй цудадзейнай красы
Не згубіла зямля маладая.
З кожнай кроплі вясновай расы
Непазбежна жыццё прарастае.

***

Ноч напаўзае з-за пагорка
На кветкі, травы, на  палі.
На небе ясным ззяюць зоркі.
Адзін я  гасну на зямлі.

***

Я запалю пад вечар свечку
І ў доме печку зацяплю.
І памалюся чалавечку,
Які з'явіўся на зямлю.

Бездапаможны і пацешны
Спагаду крыкам разалье.
Магчыма, ён, святы, бязгрэшны,

Замоліць і грахі мае.

***

Паволі вогнішча згарала,
І мружыў вочы сон салодкі.
І час патух, яго не стала…
Я толькі дым безважка-лёткі.

І паглынула яву змора:
Сцяжынкі, храмы і завулкі,
Чым сёння жыў, чым жыў я ўчора…

Я толькі цень маўкліва-гулкі.

Ноч безваротна адляцела,
Але душа не заўважала:
Яна жарынкаю мігцела
У вогнішчы, што дагарала.

### ПАКАЯННЕ

Боль знік, а разам з ім надзея і каханне.
І супыніўся час на свеце ўпершыню.
І вечнае жыццё прыйшло да пакаяння.
Наяве гэта ўсё, ці можа толькі сню?

І зноўку будзе дзень і прынясе пакуты.
І будзе падаць снег, як многа дзён таму…
За вокнамі зіма, сумёты высіць люты…
І справы да мяне зусім няма яму.

***

Цесна ў склепе цела  Духу,
Рвецца ён штоміг на волю.
Скрозь самоту, боль і скруху
Цесна Ў склепе цела  Духу.

Меле час у пацяруху.
Нікне, чэзне ён паволі,

Быццам весні  квет, што ў полі.
Цесна Ў склепе цела  Духу.

О, як прагне  белым пухам,
Між падману і юдолі,
Паляцець вясной на волю.
Цесна Ў склепе цела  Духу.

Супыніся і паслухай,
Хто не чуў яшчэ ніколі,
Як Душа крычыць ад болю.
Цесна Ў склепе цела  Духу.

Млосна… Вусцішна… Задуха…
Сон шпалер… Адбітак столі…
Вуснам смагу не спатоліць.
Цесна Ў склепе цела  Духу.

***

Дом драўляны над ракою
І да могілак дарога.
Засталіся толькі мроі,
Толькі мроі, больш нічога.

Не прайсці сцяжынкай роснай,
Не вярнуцца больш дадому.
На гарышчы больш не кросны,
Не  палотны – сум і стома.

Скрозь зямлю прарослы ганак
На гарбе трымае дзверы.
Промнем сонца весні ранак
Перагортвае шпалеры.

***

Быў колісь я крылаты,
Шлях выбіраў прамы.

Калі на сэрцы краты –
Няма страшней турмы.

Ля бацькавае хаты
Раслі, як дрэвы, мы.
Калі на сэрцы краты –
Няма страшней турмы.

Вясною – быў араты,
Цесляр – сярод зімы.
Калі на сэрцы краты –
Няма страшней турмы.

Ні мамы больш, ні таты,
Адзін грудок нямы.
Калі на сэрцы краты –
Няма страшней турмы.

Адны за мною страты,
Дзён спаленых дымы.
І ціснуць сэрца краты,
Што горай ад турмы.

Што маю – тым багаты.
Гуляй, сяброў гурма!
Раструшчаныя  краты,
І рушыцца  турма.

## ЛЕТНІМ ВЕЧАРАМ

у барвах неба сонца тоне.
Ад дзённага стамлёны гулу

Пад коўдрай траў спіць луг; з сутоння
Плісняцца згукі аб мінулым.

Лес захлынуўся цішынёю,
Вятрыска дрэвам чэша грывы.
Іду… Над полем, нада мною
Ляціць кажан, як смерць, імклівы.

***

Адчыню заржавелыя весніцы,
Сяду на струхнелы  ганак
І ўспомню з  гармонікам песні  продкаў:

Бацькі і дзядулі, ворагаў і сяброў.
І паплывуць да нябёсаў птушкі,
Кожная несучы на крылах дні;
Адны з іх стануць зоркамі,
Другія – плямамі на зорках,
Трэція – вернуцца да мяне.

І ўбачу я на крылах адлюстраванне:
Сваё маленства і на ўвесь свет дарогу,
Што вядзе мяне ўдалеч, ды да роднага дому.
І ў сад я ўвайду, дзе на цяжкіх галінках
Замест яблыкаў спеюць каменні.
І трэсці іх буду давідна,
Пакуль апошні не ўпадзе пад ногі...

КАРОВА

Праз драўляную агароджу,

Што аддзяляе загон ад шкурадзёрні,
Пазірае карова на  забойцу.
Яна не ведае, што неўзабаве
Лёс яе вырашыць шкурадзёр,
Які таксама, як і гаспадар,
Любіць сваю сям’ю і карову.
Раніцою поіць цёплай вадою
І частуе смачнай сечкай,
Запраўленай мукою,
Выбірае з-пад яе гной
І ласкава гладзіць шэрстку
Пярэстай спіны.
Маўкліва адмольвае ў неба
Грахі чалавечыя.

* * *

І зрок у міг адзіны з сонцам зліўся,
І слых  у лёгкі гук ператварыўся,
Хараламстала цішыня для нас.

... Ішоў я гаем. Быў там хлуд і смецце,
І крумкачы крычалі на дасвецці,
І спаў на хмары хлопец-птушкапас.

Звінелі промні нада мной навокал.
Я азірнуўся... Там, паміж аблокаў,
Маленькі хлопчык дудку майстраваў.

Траву шчыпалі авадні і восы.
У дудку дзьмуў натхнёна хлопчык босы.
Была вясна... Я ў ім сябе пазнаў.

БЛАЗНЫ

1

Смяяўся блазн з другога блазна,
Што ён прапойца і дзівак.
Вачыма зыркаў непрыязна,
Нібыта з лесу ваўкалак.

Адзін другому тыцкаў дулі,
Адзін другога дакараў:
Што брудная яго кашуля,
Што людскай мовы Бог не даў.

І брыдкасловілі выразна,
І юр паказвалі без слоў.
І згодна танчылі два блазны
Перад гурмой папіхачоў.

2

Я між людзей кручуся Юдай,
Мая душа, як той пажар!
Праменнем сонечным і брудам
Напоўнены мой хіжы твар.

Як з даху снежныя сумёты,
З мяне звісаюць лахманы.
Лаўлю, ад болю цёклым ротам,
Я словы здзекаў і маны.

За ўцехі іх усе і кпіны
Я нізка кланяюся ім.
Як быццам так і быць павінна.
І не магу я быць другім.

Пад апранахамі, як быццам,
Няма ні цела, ні душы.
Мо гэта сон?  Мне гэта сніцца?
Усё прыдумаў у цішы?

***

*Дневным сиянием объятый,*
*Один беззвездный вижу мрак…*
*Так вьется на гряде червяк,*
*Рассечен тяжкою лопатой.*

*Уладзіслаў Хадасевіч, 1921 г.*

Ізноў вясна. Ля хаты лоўка
Сусед капае агарод.
Чарвяк, рассечаны рыдлёўкай,
Звіваецца, паўзе за плот.

Здаецца ж мне: ля хаты лоўка
Чарвяк капае агарод.
Сусед, рассечаны рыдлёўкай,
Звіваецца, паўзе за плот.

***

Зноў маладзее весні сад,
З праявай часу ён не ў згодзе.
Дні не наперад, а назад
Бягуць насуперак прыродзе.

І паўстаюць наўкол муры
Палацамі шматвекавымі,
І парасткамі дзень стары
Расце і высіцца над імі.

І не прыходзіць небыццё,
І не старэе праўды слова.
Штораз вяртаецца жыццё
З магілы да крыжа Хрыстова.

***

Матчын дом. Нікога болей
Тут не будзе. Пустата.
У куце, пад самай столлю,
Твар распятага Хрыста.

ДЗЯДЫ

Крыжы на ўзгорку
Моляцца небу:
Дні пастарэлі.

***

Ні прагну ў жыцці ні дарункаў, ні славы,
Што ў часе няісным знікаюць з гадамі.
Мне б трошкі спакою, ды кубачак кавы,
І міг пакаяння ля свечкі – у храме.

Каб месяц не знікнуў і сонейка ззяла,
За шыбінай роднай мяла завіруха.
І сэрца скрозь смутак і скруху – кахала,
Маліцца за род свой і вечнасць каб слухаць.

***

Мяне дакарае радзіна,
Што нейчы прыблудны я сын,
Заўсёды адзін і адзін я…
Ды месяц таксама адзін.

Не ўсім нам быць побач на свеце,
Атуленым шчасцем людскім.
Адзін толькі ў небе ды свеціць,
Ён свеціць самотным усім.

***

Няхай нямоглым нехта бачыць Ці
мёртвым прагне хтось мяне,
Я не скаруся, не заплачу,
Свой боль я не ўтаплю ў віне.

Я святаяннікам аддзячу,
Настояным на палыне.
Але хвастом віляць сабачым
Вы не прымусіце мяне.

## БУДЗЁННЫЯ ДУМКІ

***

Нехта капае студню
Ў глыбіню,
Нехта ўздоўж.
Хто што хоча адшукаць.

***

Сябе любіць – не эгаізм.
Эгаізм – не любіць іншых.

***

Баюся вялікіх раманаў,
Як і вялікіх будынкаў,
Можна заблудзіцца.

***

Навошта хавацца,
Калі цябе ніхто не шукае?

***

Прамаўляю –  голасу не чую.
Пазіраю –  нічога не бачу.
Нарадзіўся нанова.

***

у сне я жыву наяве:
Ствараю, сумую, кахаю.
Прачнуўся – бачу сон.

***

Цесна. Вузка. Невыносна млосна
Сярод людскога натоўпу
На тысячы кіламетраў.

***

Няхай ты сон, няхай ты мроя,
Хай недасяжная ты часам,
Ды вераю жыву святою,
Што прыйдзе дзень, мы будзем разам.

Свет не загіне… Рыпнуць дзверы,
Скрозь морак ночы  блісне ззянне.
Бо як, скажы мне, жыць без веры,
Хіба без веры  ёсць каханне?..

***

Разваліўся дах,
Паламаўся плот…
Сотні апранах.
Крочыць новы год.

Радасць у вачах
Водзіць карагод…
Разваліўся дах,
Паламаўся плот.

***

Я зразумеў, чаму ззяюць зоры.
Шлях асвятляюць наш.

Я зразумеў, чаму сэрца ные.
Шукае ў вечнасць атвор.

Я зразумеў, чаму распялі
Хрыста… Ён паэтам быў.

## МЛЫН

Віхуры часу круцяць млын.
Не супыняецца ніколі,
Не лічыць дзён ён і хвілін…
Святло нябёсаў. Рэчка. Голлі.
Мяжа. Вячысты бор. Клады…
Калі вярнуся я сюды,
Дзе круцяцца віхуры часу,
І зор святло, і сонца пасак,
Дзіцячы плач, і смех дзявочы,
Дзе дні мінулыя і ночы?…

Няма нікога... Я  - адзін.
Віхуры часу круцяць млын.

***

Няхай агнём маны і здрады
Мне сэрца апаліў мой лёс,
А я жыццю і лёсу рады
За ўсё, што Бог паслаў з нябёс.

Калі б не смутак, боль і беды,
Жыцця б я радасць  не спазнаў,
Кахання б слодычы не зведаў,
Калі б без смутку не кахаў.

***

Раскалоўся келіх неба
На аскепкі, не сабраць.
Можа так яно і трэба,
Час свой – жыць і паміраць.

Час – зіме, і лета квету,
Плоці – час, і Духу – час.
Час вымольваць сны паэту,
Каб затым дарыць для вас.

Час для мудрасці і смеху,
Час для плачу і журбы.
Бо ўсяго мы – толькі рэха,
Толькі волі крык слабы.

Зноў скавалі дол марозы,
Сцюжа душу рве маю.
Не напой мядовы – слёзы
З неба келіха я п’ю.

***

Слабейшы я за мураша,
Што час і лёс нясе на спіне
І ў бітве, у няроўнай**,** гіне…
Слабейшы я за мураша.

Як кволы снег: у пяску і гліне –
Мая растворыцца душа.
Слабейшы я за мураша,
Што час і лёс нясе на спіне.

***

Дзе сонца ззяла – зараз хмары
Нясуць на чорных крылах змрок.
Злавесны цень пакрыў абшары,
Усё бліжэй за крокам крок.

Але ў хаосе нікнуць мары,
І думак губіцца выток.
Дзе сонца ззяла – зараз хмары
Нясуць на чорных крылах змрок.

## ЗІРНІ Ў ЛЮСТЭРКА

Зірні ў люстэрка і ўбачыш ты
Сусвет агідны, змрочны і пусты.
І бляск жыцця, што ўвесь з маны і бруду,
І здраду, што страшней ад здрады Юды.
І веры моц, і веры забыццё...
Зірні ў люстэрка, там тваё жыццё.
А тут – міраж, няіснасці агні...
Я там цябе чакаю...
Дык – зірні!

***

Бязмежжа... Не ахопіш зрокам
Прасторы шлях, што праз душу пралёг.
За сотні жыццяў не абмерыць крокам –
Усіх яго сцяжынак і дарог.

Не абысці. О, як ты не імкніся,-
Ягоных хат, магіл і курганоў,
Дзе сёння і ўчарашні дзень спляліся
Вузлом адзіным ісціны і слоў.

Мне рос тваіх валошкавых не выпіць
Да скону дзён і заўтра, і пасля:
Слязамі зор асыпаная Прыпяць,
Святая Беларуская зямля.

***

I звер пачварны нам здалёку
Здаецца мірным, нібы птах.
Ды варта нам прыбавіць кроку,
Як мы яго пабачым жах.

Не ўсё, што ў нас навідавоку –
Памер свой мае, колер, пах.
I звер пачварны нам здалёку
Здаецца мірным, нібы птах.

## СТРАХ

Пазбыўшыся страху,
Я новы набыў страх,
Страшнейшы за папярэдні:
Страх не ведаць страху.

***

Памяці М.Купрэева

Рунее авёс. Трава зелянее.
Неба люструе разліў дзьмухаўца.
Крочыць з торбай Мікола Купрэяў
Шляхам з Бярэсця да Мухаўца.

А ў торбе той кавалачак хлеба,
Пляшка гарэлкі ды сала шматок.
Якая ў шлях гэты вядзе патрэба?
-Ды нешта сумна мне, стала, браток!

Ні вольнай волі, ні роднай хаты…
Стаміўся ляжаць між крыжоў і дрэў,
Хачу праведаць – як там Філатаў?
Чуў, што нядаўна ён моцна хварэў!

Адолелі старасць яго і знямога,
І стаў, як і я, ён нікчэмны зусім.
Можа, патрэбна мая дапамога –
Застольнай бяседай ці словам маім?

-- Прабачце, магчыма, я памыліўся.

Вы не памерлі?… Вы мо не вы,
І сон толькі гэта, які мне прысніўся?
Бачыце, крочу… Значыць, жывы!

***

Па тратуарах і дварах
Растуць крыжы, нібыта кветкі.
Усіх нашых дзей і думак сведкі…
На тратуарах і дварах.
Адны – узносяцца пад дах,
Стаяць другія неўзаметку.
На тратуарах і дварах
Растуць крыжы, нібыта кветкі.

П’яніць прыродны весні пах,
Звініць жыццё, нібы манеткі.
Па тратуарах і дварах
Растуць крыжы, нібыта кветкі.
На волю рвецца райскі птах
З маны і тлуму хіжай сеткі.
Па тратуарах і дварах
Растуць крыжы, нібыта кветкі.

Ніводнай зоркі… А ў вачах
Адна пагарда, позірк едкі.
Па тратуарах і дварах
Растуць крыжы, нібыта кветкі.

Ды небу моліцца манах
Скрозь таўшчыню жыццёвай клеткі.
Па тратуарах і дварах
Растуць крыжы, нібыта кветкі.

ПЛАЧУ

Плачу не ад радасці
І не ад болю,-
Каб не развучыцца.

РУХ

Рух доўжыць час…
Вада мяняе колер.
Маўклівы крыж вартуе цішыню.

***

Наперад крочу.
Велічныя гмахі
Даўноператварылдіся ў муры

***

Гадзіннік на сцяне.
На цыферблаце поўні
Выява ўваскрэслага Хрыста.

***

Маланка рушыць дуб.
Дуб паглынуў маланку.

Скрозь неба прарастаюць жалуды.

***

З'явілася дзіця...
Сусвет безмяцежна-цесны
У параўнанні з чэравам матулі.

СОН

Я помню, як аслеп ад болю,
Мне сонца ў вочы біла з ранку.
Як я адчуў скрозь цемру – волю,
Як маці шэпча калыханку.

Гулі чмялі. Кружлялі восы,
Дзень весні птахам плыў над хатай.
А я па лужах  бегаў босы
І ў цёплых лужах сонца кратаў.

Мядовы пах ліпнёвай ночы,
Аркестр птушыны граў у садзе.
І як марскія хвалі – вочы, Кіпеў сусвет у іх паглядзе.

Снег і халодныя шпалеры
Былі што нібы лёд счарнелы,

Ў Сусвет расчыненыя дзверы,
І чорны вэлюм, чорны вэлюм.

І адзінота, боль і сорам,
Што як агнём душу палілі.
І крыж, і могілкі за борам,
Як быццам я ляжу ў магіле.

Як дрэвы кволыя дрыжалі;
Як нехта скідваў з неба поўню,
Вякі на грудзі мне ўпалі…
А больш нічога я не помню.

***

Апошнюю старонку кнігі
Перагарнуў… А што далей:
Ці завірухі, ці адлігі,
Краса вясны ці ліставей?

А дні нясуць мяне, бы крыгі,
Саскочыць толькі не пасмей…
Не дачытаў яшчэ я кнігі -
Старонкі вырваны далей.

***

Млее сонца. Вечар блізка.
Неба весняга калыска
Цішыню наўкол люляе,
З-за пагорка выплывае
Маладзік, як лебедзь срэбны,
Свой ўбор адзеўшы зрэбны,
Бы хлапчук, яшчэ падпасак,-
Дрэмле камень сярод красак.

Запаўняецца туманам
Бездань рэчкі… Быццам п’яны
Ходзіць бусел ля балота –
Зерне зор збірае ў соты,
Каб між мораку начнога
Сеяць іх для пана–Бога.

***

Ад забаў і пацех
І ад тлуму зямнога
Ў пустыню я збег,
Дзе няма анікога.

Думаў, там я знайду
І адхланне, і волю.
І жыццё правяду
Без турботаў і болю.

Ды людская бяда,
Боль і радасць людская,
Як праз губку вада,-
Праз мяне працякае.

***

Галгофа. Мекка. Курапаты.
Чарнобыль вісне на крыжы,
Маны атрутаю распяты –
Час… І няісны, і чужы.

***

Светлы вечар. Як люстэрка, лужы
Дзіўнаю запоўнены красой.
Воблакі цвітуць, нібыта ружы,
І сады квітнеюць нада мной.

Нечым незвычайна дзіўна-новым
Мне Сусвет здаецца навакол.
Поўніцца душа крылатым словам.
Як він0м жыцця, вясельны стол.

***

Мяне няма… Не існуе.
Я толькі сцень, нябачны зроку.
Ужо даўно сляды мае
Змыў дождж…
            Не будзяць рэха крокі
Вясну на вулках гарадскіх,
Што ў небасяжным знікла гуле,-
Жыццё агучыўшы на міг…
Але, і іх вы не пачулі.
Як пе пачулі стогн і крык,

З грудзей, што вырваўся на волю. Бо
толькі нечы я двайнік,
Ці фотаздымак і не болей.
А той, хто ходзіць па двары,
На кій апёршыся рукою,
Зусім знямоглы і стары –
Не я!
Ён быў калісьці мною.

***

Праменняў шоўкавую ніткай,
Срэбнай песняю струны,
Сакавіцкі ранак выткаў
У лузе красак дываны.

Паглядзі, пад снегам гідкім,
Ажываюць зноў яны.
Сакавіцкі ранак выткаў
У лузе красак дываны.

***

Зляцела сонца з Божых рук
І знікла за пагоркам.
Стаміўшыся спяваць жаўрук,
Павіс  у небе зоркай.

Бор  вечаровай цішыні
Шапоча калыханку.
На ложку, з траваў, дрэмлюць дні,
Як дзьмухаўцы да ранку.

***

А дрэвы збеглі з тратуараў,
Пад засень храмаў і дамоў –
Не чуць каб сцюжы дзікай роў,
І хутаюць, як дзецi, твары
У сны далёкія  і мары –
Вясна дзе, веліч і любоў.

***

Што трэба мне? Ды толькі цішыні.
Яна змясціла і гады,і дні
Жыцця майго і тых, хто поруч з намі
Жыў, працаваў, і ўжо каго не стала,
І гэта многа, і так крыўдна мала
Жыць мроямі, надзеямі, і снамі…
Як цішыня мяне зачаравала
На вуліцы, а быццам я ў храме.

***

Вечарэе. Стомленыя хмары
Гурбамі ляцяць на вадапой.
Каб у пешчах цеплыні і пары
Адшукаць да раніцы спакой.

Ловяць мошак ластавачкі з лёту,
У хмызняк нырцуюць па чарзе.
Злоўленая сеткаю чароту
Сонца б'ецца рыбай у вадзе.

***

Я крочу па кладах. Час нікне вечаровы.
На дол спускаецца паволі шэры змрок.
На плітах і крыжах жальбы і болю словы.
Вось надпіс на пліце, я прыцішаю крок:

-Тут спіць душа твая, вандроўнік супыніся,
Падумай пра сябе, пра свой жыццёвы шлях.
Хвілінку кожную пазнаць сябе імкніся,

Я колісь быў табой ды абярнуўся ў прах…

Шматкроп'е йдзе далей, ці можа сцёрты словы,
За цягам часу мне ніяк не разгадаць.
Стаю ў маўчанні я. Час нікне вечаровы.
А побач ні душы, няма каго спытаць

Хто пахаваны тут, хто спіць у склепе гэтым:
Мой продак, сябра мой, ці можа мой двайнік?
Музыкаю ён быў ці, можа, быў паэтам,
Ды на чужыне, у выгнанні вечным знік?

А тут ляжыць яго не цела – Дух нятленны,
Народ ягоны ён ратуе ад бяды.
Я чую, як расту, як набухаюць вены
Крывёй магутных сіл скрозь памяці гады.

## 2. ПАЦАЛАВАЛА ЛЕТА

***

На месцы тым, дзе сад квітнеў,
Трава пажухлая і вецце.
Ваўком галодным вые вецер
На месцы тым, дзе сад квітнеў.

На месцы тым, дзе сустракаў
З табою разам я світанні,
Крыжы струхлелыя, бы здані,
Там, дзе світанні сустракаў.

Які б ні быў мой шлях кароткі,
Я там застаўся маладым,
І пацалунак твой салодкі
Пячэ агнём на месцы тым.

***

Пухлы снег, як попел чорны,
На бязмежны выпаў дол.

Толькі неба пасак зорны
Свет люструе навакол:
Дрэвы, вуліцы, палеткі,
Твой, як лёд, збялелы твар
І знямелы позірк кветкі,
Што ўмярзае ў тратуар.
Гэта мой табе дарунак,
Развітальны мой пагляд.
Дрэваў зломленыя струны.
Паламаны ветрам сад.
Я па чорным снезе крочу
Да святла далёкіх зор,
Каб цябе спаткаць аднойчы,
Дзе гучыць анёлаў хор.
Там, між воблачнае высі,
Дзе спыніўся час і рух,
Мне, як колісь, усміхніся
Кветам белых завірух.

***

Краса. Мілосць. Чаканне цуду.
Яднанне рук, яднанне душ.
І пасярод маны і бруду
Ты святасць тую не паруш.

Калі так светла неба ззяе,
Калі таемна шэпча ноч,
Ані ў жальбе, ні ў час адчаю
Таемнасць тую не азмроч.

Ці чуеш, шлях нас кліча млечны!
“Ляцім!” – ты, любая, скажы.
І адыходзячы навечна,
Імгненне тое зберажы.

***

Красавік недзе збег за двары,

Травень шчэ не з’явіўся ў госці.
І празяблыя стынуць муры,
Шэпча ноч маліто́ўнае штосьці.

Па Бярэсці з табою іду
Да прыступак святога касцёла.
Я цябе на нябёсы вяду,
У святы і вясёлкавы золак.

Зоркі падаюць, як медзякі,
Апусцілася неба так нізка.
Да тваёй дакрануўся рукі
Не губамі, душой гэтак блізка.

Белы вэлюм ахутаў зямлю,
Стан твой любы, і дол, і прастору.
Быць маёй цябе сёння малю
Я і неба, і поўня над борам.

***

Зноўку не спіцца. Вочы замружу:
Свечкі мігценне, белыя ружы,

Шоргат фіранак, дыван белым-белы,
Два ў адно паядданыя целы,
Музыка Баха, вуснаў літанне.
Еднасці лёсу, рук скрыжаванне,
Жарсць непазбежнасці, холад самоты,
Свечкі кананне, жах адзіноты.

***

Я ведаю, мне не сустрэцца з табою,

Хаця ты і побач, ты побач са мною.
У вочы глядзіш мне скрозь золкае ранне,
І чую я шэпт твой і вуснаў дыханне.
І нават шал страсці, якую спазнаю,
Наяве ўсім целам сваім адчуваю.
Я мог бы абняць, паміж намі два крокі.
Ты побач са мной, але ты так далёка.
Як сонечны зайчык, вось быў і знікае,
Як бура, як вецер, як мара зямная.

***

Памёрла жыццё, мне парою здаецца,
Калі боль і смутак накрые бядою,
Ды сонечны промень скрозь хмары праб’ецца,
І зноўку душа паляціць за табою.

За тою адзінай, забытай, далёкай,
У якую калісьці я быў закаханы…
Як воблакі, лёгкімі робяцца крокі,
І гояцца ў сэрцы і смутак, і раны.

***

Пялёсткі суму і святла
На весні дол рассыпаў сад.
Дзень адыходзіць. Ноч прыйшла -
Стаіць каханкай ля прысад.

Баіцца, быццам праганю
Ці асуджу яе прыход,
І браму её не адчыню,
І клямкі цяжкія варот.

О, госця дзіўная мая,
Заходзь, мой двор і дом пусты!
Цябе даўно чакаю я,
Самотнік гэткі ж, як і ты.

## САНЕТ

Не радасці  шукаю, а пакуты,
Спакой і асалоду прэч ганю.
Як матылёк да згубнага агню,
Да неспакою лёсам я прыкуты.
Сам на сябе накладваю я путы,
Ва ўсіх зямных грахах сябе віню
І, славячы крыніцы чысціню,
Сабе я ў келіх лью напой атруты.
Адрынуты, каханне я шукаю
І пешчу сэрца думкай пра Яе.
Калі перамагчы мне сіл стае,
Ад той жанчыны, што мяне кахае,
Я прэч бягу… Мне зноўку сніцца тая,
Якую не хвалююць сны мае.

***

Хай моракам пакрыта ўсё наўзбоч,
Ды ў сэрцы промень сонца ярка ззяе.
Душа яшчэ пакутуе, кахае,
Не веручы растанню ні на міг.
Хоць голас сэрца здрадна паўтарае,
Што разам нам ужо не быць ніколі…
А мне шчэ сніцца вуснаў жар тваіх,
Памятае падушкі аблачына.
І пах тваіх іскрыстых валасоў,
І гэтае нябеснае: «Адзіны!»
…Пусты пакой. І ціха дзень сышоў.
За вокнамі пануе ноч глухая.
Ні ясачкі. Сусвет зусім пусты.
Я свечку запалю, няхай міргае.
І стану думаць, што са мною ты.

## НЕ ТЫ

Чую я там, за халоднай сцяной,
Крокі паненкі на вуліцы начной.
Горад глухі і пусты…
Гэта не ты.

Вечар. Люстэрка. Цябе не стае.
Свечка маўкліва гарыць на стале.
Хтось на падлозе раскінуў лісты…
Гэта не ты.

Хвіля. Другая. Як цягнецца час!
Вось і ліхтар перад пляцам пагас.
Жудасна. Дом нематы.
Рыпнулі дзверы… Не ты!

Нехта мілуе пяшчотна мяне:
Рукі плывуць ручаём па спіне.
Шэпчаш забыты матыў…
Вочы расплюшчу… Не ты.

***

На золку ложак твой пакіну назаўжды
Зірнуўшы развітальна. Як салодка
На коўдры спіш, нібы на хвалях лодка…
Яшчэ кахання нашага сляды
Не сцерліся: на гэтай шыі мілай
Мой пацалунак, белай поўні круг.
Вясновы сад грудзей тваіх набух –
Ты сарамліва іх рукой прыкрыла
І нешта шэпчаш ласкава праз сненне,
Вяртаючыся ў светлае імгненне,
Што нам падаравала  ноч кахання.
Ды час ісці. Цябе на развітанне
Цалую моцна. О,як сэрца б'ецца!
Пайду. Мой цень з табою застанецца.

***

Ноты музыкі гучалі,
Нас вясна зачаравала,
Дзе ў зіхоткай светлай зале
Радасць дзіўная кружляла.

Позірк ласкавы і строгі,
Вочы сэрца мне краналі.
І апроч яе нікога
Не было ў зіхоткай зале.

За хвілінаю хвіліна,
Дні, гады, вякі міналі.
Выспеў ранак, як маліна,
Толькі мы не заўважалі.

Ты пайшла, растала рэхам,
Што агучылі сандалі. І тваім
іскрыцца смехам
Промнік сонца ў гэтай зале.

***

Як плод, што схаваны між галінак дрэва,
Цела тваё, ахінутае белай сукенкай воблака.
Ясным спякотным днём прагне дажджом праліцца,
Каб смагу  сваю наталіць,
І сасмяглымі краскамі-вуснамі
Спякоту маёй душы астудзіць.

О, не знікай
За далягдядам часу і прасторы. Супыніся на імгненне,
Атулі мяне сваё пяшчотай,
І ў шале ліўня і буры
Пагасі мой гарачы пыл,
Што мучыць і знішчае мяне.

І няхай сальюцца нашы душы,
На скрыжаванні Вечнасці і Небыцця,
На парозе Сну і Явы Каб святлом
Кахання наталіцца.

Дрэва Жыцця расхіне свае галінкі,
І я паспытаю плод Радасці,
Самы прыгожы і самы салодкі на свеце.

***

Вечар летні, вечар шэры.
Промнік сонца долу льецца
І кладзецца на шпалеры…
Матылёк аб шыбу б'ецца.

Ноч малюе нешта ў зрэнках,
Ахінае стомай цела.
Дзіўным прывідам сукенка
На падлогу паляцела.

Я і ты. Не рыпнуць дзверы.
І ніхто не завітае.
Вечар летні, вечар шэры
Нас таемнасцю вянчае.

***

Жадаў табе я ўвесь сусвет да ног
Пакласці, як букет прыгожых ружаў:
Анёлам быць табе, рабом і мужам…

А завушніцы срэбныя не змог
Набыць табе. Сказала: «Лепей з вужам
Мне быць, ды есці залаты пірог».

***

Паміж тлуму жыцця, у надзеях-загадках,
Час мінае паволі і доўжыцца дзень,
І мінулае можна вярнуць толькі ў згадках.
Нібы кроплю дажджу, нібы сонца прамень.

Не вярнуцца назад, не спыніць нават кроку,
Што вядзе ўдалячынь, за сузор'яў мяжу.
Засталіся гады безваротныя збоку,
«Ды бывайце!» – я ўсё-такі ім не скажу.

І няхай гасне час у надзеі ці скрусе,
Скрозь сумёты снягоў, скрозь праменне святла
Я прыйду, у былое аднойчы вярнуся,
Той сусвет, дзе калісьці маёй ты была.

## ЗОРКА ЎЗЫШЛА

Радзімкаю
Зорка ўзышла
На шыі маёй каханай.
Гэтак блізка нябёс
Я яшчэ не кранаўся рукою.

## КАЛІ Я ПІШУ

Калі я пішу:
“Прыйшла вясна...” –
Значыць, гэта ты
Заляцела ў мой дом
Сонечным промнем кахання.

## НАІЎ

Які наіў
Дарыць жанчынам зоры,
Калі ў садзе так многа паданкаў.

## ТВАЕ КРОКІ

Твае я крокі помню і цяпер.
Ніхто, як ты, так ціха не ступае,
Хіба што па вадзе плыве аер.
Па небе зорка, і душа да раю.

***

Не дакарай мяне, паненка,
За скупасць  пешчаў, беднасць слоў,
Што не цвіце пяшчота ў зрэнках,
Калі кажу я пра любоў.

Я ўспыхнуць вогнішчам баюся,
Каб ўсё наўкол не спапяліць.
На папялішчы тым, у скрусе,
Увесь век пакутаваць і жыць.

***

З табой мы выйшлі з дому,
І зніклі між прасторы.
Адхланне. Цнота. Стома.
Пах ружаў і чабору.

Яднанне рук і душаў.
І невядомасць свету.
І запрапад пад грушай, Дзе будзе
вечным лета.

***

У чым жыцця выратаванне? –
Спытаў дзіця я…
– У каханні!

Калі яно дарослым стане?
- Яно таксама ж у каханні!

Калі смяротны час настане?
- Яно прадоўжыцца ў каханні!

## ТРЫЯЛЕТЫ

1

Хоць я кахаю – твой пакіну дом.
Больш моцы я цябе кахаць не маю,
Зламаюся і лёс твой паламаю…
Хоць я кахаю – твой пакіну дом.

Баюся, што Гамора і Садом
У душы нашы раптам завітае.
Хоць я кахаю – твой пакіну дом.
Больш моцы я цябе кахаць не маю.

2

Я моцны адзінотаю сваёй,
Нібы замшэлы камень прыдарожны.
Разбіць яго, спіхнуць яго не можна.
Я моцны адзінотаю сваёй.

І спраўлюся з любою я бядой,
Бо разам нас пакрыўдзіць можа кожны.
Я моцны адзінотаю сваёй,

Нібы замшэлы камень прыдарожны.

***

Я Вас кахаю… Ды не значыць.
Што ўслед за Вамі я пайду.
Баюся я праз Вас убачыць –
Сваю агіду і брыду.

Парушыць велічнае штосьці,
Пра што не дадзена мне знаць.
І ў Вашай светлай маладосці –
Глухую старасць адшукаць.

## ВАВЁРКА

Між квецені вясняга бэзу,
Як быццам бы нейкае дзіва.
Вавёрка – дзяўчына-гарэза,
Па красках ступае гулліва.

Вясна патанае ў зрэнках,
Ёй вецер касу заплятае.
І воблакам белым сукенка
У золкае ранне сплывае.

## ПАЦАЛАВАЛА НЕБА

Я думаў – гэта ты…
Мяне ў твар
пацалавала неба,
зляцеўшы знічкай.

***

Мяне Вы судзіце ў адчаі,
Што сэрца Вам не аддаю.
Паненка, я не Вас кахаю,
А мару даўнюю сваю.

У сціжме дзён, хвілінай тою,
Калі мяне сустрэлі Вы,
Сваёй прывабілі красою,
Як дыамантаў бляск жывы.

Я думаў – светла і нязвыкла,
Што Вы мой лёс на ўсе часы.
Час прамінуў… І ўсё апрыкла –
Бляск дыяментаў і красы.

***

Каханне прынімаю - нібы кару.
Жыццё што даравала мне і Бог,
І ім – жыву я, і аб ім  я – мару,
І да яго спяшу з ўсіх дарог.

Яго – выбраннік, і яго – ахвяра.
О, толькі б я паспеў! О,толькі б змог! –
Дух наталіць ягоным божым дарам,
Я тую кару – як жыццё бярог.

***

Жадаеш, каб кахаў я кожны міг!
Каханая, ты не чытаеш кніг
Пра люд сярмяжны, іх жыццё і нораў,
А толькі пра вяльможаў і сіньёраў.
Кахаць цябе, любімая, я б змог
Штодзень, штохвілю – гэта бачыць Бог.
Ды вось жа – трэба крочыць на работу,
Каб здабываць свой хлеб з крыві і поту,
Бо хутка мне з дакорам скажаш ты:
“Без хлеба плод кахання – плод пусты!”

***

Палыновы пах,
Бы салодкі сон.
У тваіх руках –
Неба парасон.

Рэчка. Чараты.
Канюшыны стог.
Толькі я і ты.
Выстылы мурог.

***

Па-над пожняю, ля дома
Час стаіўся нерухома.
Ахінулі ціш і стома
Усё наўкол.
Зруб гумна і прывід стога.
Ні самоты, ні знямогі,
І кладзецца нам пад ногі
Дываном квяцісты дол.

Да нябёс – падаць рукою.
Крочу садам я з табою.
Пахне золкам і вясною,
Кветам яблыняў і груш.
Павуцінкай вяжа тонкай
Нас жыццё… а недзе звонка
Шпак шчабеча… Ты – не жонка,
І не твой яшчэ я муж.

***

За фіранкай вакна
Зноў чаруе вясна.
Белым кветам мяце завіруха.
Я – адзін, ты – адна,
Не заснуць да відна.
Паглынулі мілосць нас і скруха.

Вусны, рукі, чало…
Слепіць свечкі святло.
І дыханні, як пошумы дрэва.
Усё вясной замяло,
Будзе што, што  было,-
Жарсці музыкі, радасці, спеву.

***

Даланёй каханай
пагладзіў маю шчаку
сонечны прамень –
так нечаканна,
так чыста...
Вяртаецца маладосць
у маё састарэлае сэрца,
а разам з ёй – і каханне,
да якога так доўга
і пакутліва крочыў.
Цвіце на шчацэ маёй-
краска вясны.

***

Калі любасць твая прарасла ў люты гнеў,
Дакарала мяне і ўвесь люд –
Я маўчаў, бо пакрыўдзіць цябе не хацеў.
Тлум і звадкі зусім не люблю.

Калі злом і пагардай свяціўся твой твар,
Што за мора і неба глыбей –
У пустку збегчы жадаў, растварыцца між хмар,
Каб не чуць і не бачыць цябе.

А не стала цябе, я душой не зманю,
Душыць цела самота і жах,
Сэрца прагне крычаць і парваць цішыню,
Як сарочку на хворых грудзях.

***

Крыўдуеце, што вам я з іншай здрадзіў.
Калі гулялі вечарам па садзе.
Каханая, нічога не было:
Рукі яе я падтрымаў крыло,
Калі ёй ад спякоты млосна стала;
На лаўку дзеўка сесьці пажадала.
Я летнік расшпіліць ёй дапамог
І зняў сандалі з яе гожых ног,
І вуснамі ёй вусны астудзіў...

І зараз, і ў той час – я з вамі быў.
Такі ў дзяўчыны твар быў нежывы,
Што я падумаў – гэта, пэўна, вы.

***

У пакоі – ціха, глуха.
Атачыла сэрца скруха.
А за шыбай завіруха
Навагодны ладзіць баль.
Там – ні гоману, ні руху…
Толькі цёпла мне і суха
Пад тваёй хусцінай з пуху,
Бы пад воблакам амаль.

Ты пайшла – не прыйдзеш болей,

Столькі вольнасці і волі.
Я на хлеб насыплю солі
І аддам віно журбе.
Вусны – вусны раскалолі.
Не сустрэнемся ніколі…
І пляце павук на столі
Бэлы вэлюм для цябе.

***

Сустрэўся толькі на хвіліну,
Каб развітацца назаўжды.
Ды ты на сэрцы, як на гліне,
Свае пакінула сляды.

Яны – як дум тваіх павевы,
Яны – як слоў тваіх святло.
І ні вятрам, і ні залевам
Не змыць, што ў сэрцы прарасло.

***

І што для шчасця болей трэба.
Яшчэ – жыву, яшчэ – люблю!
Апошні свой кавалак хлеба
Я напалам з табой дзялю.

Яшчэ не скончана нядзеля.

І нам з табою не да сну.
Мы напалам з табою дзелім –
Сваё каханне, і вясну.

Для нас дваіх – зямля і зоры,
І квет, што ахінуў зямлю.
І толькі смутак, боль і горыч –
Я аднаму сябе ўдзялю.

***

"Кахаю Вас!" – сказаў я.  І сумеўся,
Як хлапчаня ў спаткання першы раз.
Хацеў сказаць я іншае для Вас:
Што цёпла ў хаце вашай,
                    што сагрэўся
Я тут. І целам кволым, і душой,
Што дбайная Вы вельмі гаспадыня,

Што сам не разумею, што са мной…
…і боршч астыў, і чай у шклянцы стыне.

***

Ноч. На вузкім калідоры –
П’ём гарбату. І – маўчым.
І камін, нібыта хворы,
Кашлем давіцца сваім.
Завітала на хвіліну:
Проста вецер звар’яцеў,

І сусвет пад снегам гіне.
Месяц у акне гарэў.
Проста з краю ў вёсцы хата
Аказалася мая,
І не ведала сама ты –
Што за хата і чыя?
Проста мы не вінаваты,
Што сваім не верым снам…
Ноч. Халодная гарбата -
Апякае вусны нам.

***

Я з табою іду
Светлай сцежкаю мар.
Ты ў сукенцы з дажджу,
Сонцам свеціцца твар.

Кожны рух, кожны крок,
Як дыханнне вясны.
Ты ў сукенцы з аблок,
Спеюць дзе перуны.

Дзе квітнее краса Кветам зёлак і
сноў.
У тваіх валасах
Месяц ясны ўзышоў.

Кожны рух, кожны крок
Асвятляе ён твой.
Ўсю – з дажджу і аблок,
Што завецца – вясной.

***

Калі душа шукае раю,
Калі жыццё, як пекла мне,-
Шчаслівы я, бо зноў кахаю,
Ты ёсць, каханая, ў мяне.

Я – неўміручы, моцны, дужы,
Як дрэваў – спеў, як птушак – лёт.
І не агонь, ні золь, ні сцюжа,
Нас не злякаюць між нягод.

Я ўсё змагу, я добра знаю,
І боль, і смутак – праміне,
Бо я – люблю! Бо я – кахаю!
Ты ёсць, каханая, ў мяне.

## КУПАЛЬНЯ

Чаму маўчаць твае спелыя вусны?
Позірк прыжмураных вачэй – у які сусвет скіраваны?
У бездань вады ступаеш паволі.

Нібы ў ложак з прахалоднай прасцінай.
Між хваляў зіхоткае цела лілеяй у вечнасць сплывае.
Ярка-чырвонай ружай – свет палымнее,
Пераплятаючыся з небам сінечай.
Кожны ўзмах тваёй рукі – дорыць спакой і адхланне.

Жывіць надзею сусвету.
І супыняе жыццё – цела твайго хараство.
Ты – не мая, і ты – мая.
Я абраў цябе – прыгажуня:
Жанчына-кветка,
Жанчына-мара,
Жанчына-пакута.
У сэрцах закаханых – нараджаецца жыццё.
У празрыстых і чыстых купальнях – нараджаецца Сусвет.

ЗАБЫТАЯ КАЗАЧКА

паводле А.С.Пушкіна

Замінаюць жыць на свеце:
Нехламяжны муж і дзеці, Вольнадумныя
суседзі,
Трактар, што па вуліцы едзе,
Дождж маркотны і завея,
Што ўсю ноч гудзе і вее,
Маладзік, што ў небе ззяе –
Ён таксама замінае.

Муж – прапаў, не стала – дзетак,
Усё – не тое, усё – не гэтак:
Двор – малы, дзяжа – гнілая,
Лыжка – есці замінае,
І не так бяжыць дарога
Праз пагорачкі – да Бога

- “Вось вам – цуда – кветка, пані!
Вашы ўсе яна жаданні –
Умомант выканаць гатова
Хомар (?) кожны ваш і слова”.

-“Кветка вашая – благая:
Пах не той і колер мае,
Ды, яшчэ скажу, - з шыпамі.
Ёй не месца ў Божым храме.
……………………………………………………………………
Многа дзён прайшло ці мала –
Знікла ўсё, што замінала:
Толькі – пустка, толькі – ціша,
Ветрык дрэва – не калыша.
Не гудуць наўкол машыны.
Хоць бы цень мільгнуў адзіны?

Пані ў роспачы і смутку:
Ні – адзення, ні – абутку.
Ані - вечара, ні – ночы.
І няма куды пакрочыць.
Хоць бы нейкі валацуга –
Працярэбіў цішу пугай.

Пані слёзна просіць Бога:
-“Чалавечка, хоць якога.
Хай калеку. Хай ён злосны,-
Мне пашлі, бо невыносна

Жыць на свеце ў адзіноце…
Хай ні кропелькі ж у роце:
Ні вады, ні крошкі хлеба –
Мне нічога больш не трэба?!”

Бог пачуў яе літанні,
Што было – вярнуў ён пані.
Вось гісторыя якая.
Больш – нішто не замінае.

## І ЛОВІЦЬ МОЙ ПАГЛЯД

Самотна сёння мне, так сумна, як ніколі,
Не цешаць  сэрца больш  ні краскі, ні вясна.
І  пальцы, што ў крыві, не адчуваюць болю,
Як быццам бы няма мяне – а плоць адна.
Навошта я ў табе шукаў сваю патолю,
Табою жыў: не спаў, пакутваў давідна.
Ты іншую сабе наканавала долю,
А я зусім адзін. І не мая віна.
Як невыносна жыць… ды жыць на свеце трэба,
Бо не даруе Бог мне, ні зямля, ні неба
Хвіліны слабасці, што паланілі дух.
Лепш пальцы – у агонь, няхай згараць яны
І з імі – Ты, краса, надзеі, мары, сны…
Ды ловіць мой пагляд твой кожны крок і рух.

Ды ловіць мой пагляд твой кожны крок і рух….
Па дыване прайшла да століка паволі,
На свечку дзьмухнула, -- агеньчык быў патух,
Ды праз імгненне разгарэўся болей.
Сукенку скінула, стаіш, нібы анёл,
І зоркі падаюць праз абалонь на стол,
Дзве свечкі зіхацяць, - сляза нябёс нібыта:
Бы незямная ты, нібы прыйшла з нябыту.

Бы незямная ты, нібы прыйшла з нябыту.
Няіснае дзе ўсё:  і мроя, і падман.
Павекаў светлы плёс, два возеры з блакіту,
Вірлівая рака – твой лёгкі, пругкі стан,
І стрэлы босых ног, што ў светлы сон спавіты…
Я чую шэпт: “Ну, што, мяне злякаўся, пан?”
Баюся?  Так, але прызнацца ў тым не смею.
Кахаў зямных жанчын, ды не кахаў я фею,
А зараз – вось яна, руку ледзь працягні:
Кладзецца на пасцель, яе дыханне чую,
Усё глыбей лячу я ў плынь рачную,
А навакол мяне – агні, агні, агні.

А навакол мяне – агні, агні, агні,
Нібыта цэлы свет ахоплены пажарам.
І круціцца Сусвет ад той гарачыні…
Яны і сёння мне – як за любошчы кара,
Як быццам нейкі жах я помню тыя дні,
А вусны, як тады, мне шэпчуць: “Адпачні!”
Мо  гэта – толькі сон, ілюзія і мара?

Не сон. Не сон. Не сон. Чутно выяўна мне:
Душа баліць і след глыбокі на спіне
Ад жарсці рук тваіх. Усё пра гэта сведчыць.
Са мной цябе няма. Ды ты са мной была.
І свечка на стале, згарэлая  датла,
І водар цыгарэт, і кінутыя рэчы.

І водар цыгарэт, і кінутыя рэчы:
Чырвоны парасон, пярсцёнак залаты…
Яшчэ тут нехта быў, тут цень яшчэ быў нечы
У гэты час калі была са мною ты.
І з сонцам патануў ён у вачах сінечы,
Каб да цябе прыйсці праз далеч і масты.
То быў не я – а ён, адбітак я ягоны,
Ягоная сляза, ягоны боль і стогны,
Якімі спавіваў, каханую, цябе…
То быў не я. а ты не бачыла нічога –
Шаптала мне: “Люблю!”, а лашчыла другога,
І памірала з ім ў шчасці і ў журбе.

І памірала з ім ў шчасці і ў журбе…
Ды не яго, заўжды любіла ты сябе
І  нат у забыцці жыла адной сабою.
Не шчасце вястуна, а забыцця і бед
Убачыла ўва мне за шырмай залатою.
Спазнала – грэшны я, а думала – святы,
І збегла ад мяне аднойчы ўпотай ты,
Хоць не трымаў цябе, я не люблю палону.
Мо думаеш, каханне ты забрала? Не!
Яно заўжды са мной, яно жыве ўва мне,
І будзе жыць яно, а разам Ты, да скону.

І будзе жыць яно, а разам Ты, да скону.
Не пажадала ты – а жонкай стаць магла.
Дык будзь жа назаўжды жыццём благаславёна!..
…Як свечка болем памяць апякла!

***

Калі зімовай лютай сцюжай
Боль прыйдзе ў дом твой і адчай,
Цябе суцешу белай ружай…
О,пані – ружу пакахай!

Калі жальбою ці маленнем
Не вычуліш ты светлы рай.
Сваім цябе прыкрыю ценем…
О, пані – цень мой пакахай!

Калі скрозь лютую завею
Ты ў іншы завітаеш край.
Цябе надзеяй я сагрэю…
Надзею, пані, пакахай!

***

За поўнач. І нам развітацца пара.
Рассёк маё цела прамень ліхтара
На дзве палавіны.
Адна да цябе ў морак ночы імкне,
Другая ж у іншы бок цягне мяне,
І я – не адзіны.

І час разарваны, як жылка шнурка:
Адна абнімае і песціць рука,
Прэч гоніць другая.
Адно маё вока мігціць, як агмень,
Другое – ад ночы чарней… Толькі цень
Твой недзе знікае.

Стаю я адзін пад ліхтарным святлом,
І ноччу  святлей чым вясёлкавым днём –
Вяртаецца воля.
Як ніткаю, цела сшывае мой дух,
І больш ні палоніць ні зрок твой, ні рух –
Ніколі, ніколі.

## 3. ВЯРТАННЕ

### СІРЭНА

Калі ясным бляскам промняў заліе палеткі поўня,
спеў дзявочы, спеў дзівосны па-над рэчкай чую я.
Гэта пекная Сірэна на аблоках белай пены
мне спявае песню-казку, як каханая мая.
І нямее, ціхне далеч,тая песня смутку й жалю
ажно сэрца разрывае, не дае спакою мне.
Тая песня аб каханні, аб нeспраўджаным жаданні,
аб маім палескім краі і аб роднай старане.
Вось што кажа песня тая: колісь пані маладая
каля пушчы векавечнай разам з мачахай жыла.
Кожны вечар ці на золку – у бары збірала зёлкі
і варыла людзям лекі, бо знахаркаю была.
Для нямоглых – ткала, шыла... Ды чамусьці не ўзлюбіла,
мо за рукі залатыя, злая мачаха яе.
І паклікала аднойчы варажбіта сярод ночы,
каб наклікаў злыя чары, чары чорныя свае...
і збыліся тыя чары: разарваў вятрыска хмары
і свавольную дзяўчынку ён панёс у акіян.
Паплыла яна па хвалях, па марскіх бяскрайніх далях:
ногі – рыбін хвост іскрысты, а пад ім – дзявочы стан.
Так плыла: і дні, і ночы... Толькі выплыла аднойчы
на знаёмы бераг рэчкі, дзе прайшлі яе гады,
дзе яна збірала травы, свае ладзіла забавы, -
у краіну Белай Вежы. Не магла не плыць сюды.
...Пачынаецца змярканне, з пекнай паннай на спатканне
да маўклівае затокі, дзе жыве яна, іду...
Хваля ўзнікла, з ёй – другая. З цёмных нетраў усплывае
прыгажосці дзіўнай пані на ружовую ваду.
На красуню заглядзеўся... Позірк з позіркам сустрэўся.
Затрымаўся на хвіліну, што жыццём здалося мне.
Стала ціха так наўкола – паляцеў грабеньчык долу,-
нырцанула ў вір халодны, недаступны для мяне.

***

Дзе віецца між альшын багульнік
і па хвоях скачуць лесуны,
ладзяць ведзьмы чортавыя гульні –
на дзяўчат падобныя яны.
На дзяўчат, з вясёлкавага рання, што з майго
забытага сяла...
Вось і ты, далёкае каханне,
на сустрэчу ў гэты лес прыйшла.
нагаткое цела белым-бела,
вэлюмам ахілены твой твар.
Пад каронай, ззяннем заінелым,
спіць ля ног тваіх вужыны цар.
Мне б каханым... вужам нарадзіцца,
іншае спазнаць жыццё наўзбоч.
Між грудзей тваіх гарачых віцца,
песціць і галубіць усю ноч.
Хутка ранак.. Золка і панура.
Супыняе ноч сваю хаду.
Скінуўшы з сябе вужакі скуру,
стомлены, да дому я іду.

## ВЯЛЕС

Яшчэ сляды крыві тут не астылі,
чуцён пагоні кліч то тут, то там…
Цябе глухім вальерам паланілі –
чужынцам для пацехі і панам.

І путамі звязалі бег імклівы,
табе надзелі рабскае ярмо:
каб родныя ты не пабачыў нівы,
каб вольна дыхаць ты і жыць не змог.

Ляціць, як гром, як смерч, у стан варожы:
ні трапны стрэл, ні нож спыніць не зможа.
Як і ў часы паганства – не загінуў,
Зноў будзіць пушчу рыкам ён зубрыным.

## КУПАННЕ

Прылёгшы на рачны пясок, спіной да сонца, баўлю час я.
Натоўп, ад спёкі ап’янелы, у вадзе купаецца, дурэе,
тапелец недзе пад карчом з русалкай моўчкі размаўляе,
і вадзянік, парослы мохам, збірае бітыя ашкельцы
у  торбу, сплеценую з сетак гарэз адвечных рыбакоў.

Мінае час… Да сонца пузам, я вольны дзень паволі баўлю.
Натоўп, ад спёкі ап’янелы, у вадзе купаецца, дурэе,
тапелец пад карчом русалцы пяшчотна шэпча пра каханне,
і вадзянік, парослы мохам, стамлёны марнаю работай,
прылёг на бузаваты бераг – кляне п’янтосаў-рыбакоў.

А сонца коцціцца да схілу… спяшаюся я на аўтобус.
Натоўп, ад спёкі ап’янелы, у вадзе купаецца, дурэе,
тапелец з-пад карча вылазіць, сваю пакінуўшы русалку,
і вадзянік, парослы мохам,спіць у чароце бестурботна,
украўшы паўлітроўку “рускай” у нехламяжных рыбакоў.

## ПАГАНСКАЯ ТАНЦОРКА

У ззянні поўні, на лясной паляне,
На вуголлях вогнішча
Яна
Шэпча стоду светлыя літанні,
Просіць шчасця ў пана Перуна.

Крок за крокам, не адчуўшы болю.
Быццам бы па полю ці вадзе
Босымі нагамі па вуголлі
Споведзь-танец дзіўную вядзе.
Асвятляюць плечы яскі-промні,
Абвівае шыю смолак ніць.
У руцэ яе аскепак поўні
Срэбраным люстэркам зіхаціць.

Не сустрэнеш навакол нікога.
Толькі чуеш лёт імклівых соў,
Толькі – ноч і вочы стода-бога,
Толькі - прысак зыркіх вугалькоў.

## ЛЁЛЯ

Сонца весняе з-за бору
Белым лебедзем плыве.
У пазалочаным уборы
Пані крочыць па траве.

Па блакітна-светлых росах,
Па пялёстках белых руж.
Знічка ўплеценая ў косы
Вывіваецца, бы вуж.

І гарацць каханнем вочы.
Вусны хвалямі звіняць.
І вясна з ёй побач крочыць,
Каб ва ўсім дапамагаць.

Зычным смехам наваколле
Заліваецца, пяе.
І цалуюць луг і поле
Ногі босыя яе.

ЛАДА

Яснасць ночы і фарбаў высокіх адценні,
Трызны спеў і жалейкі чароўныя гукі,
Горыч смутку і радасці светлай імгненні,
Апраўданне надзеі, і роспач, і мукі,-
Паяднаны табой, уладарная пані!
Будзь жа вечнай! Я дзякую сёння за тое,
Што каханай жанчыны я чую дыханне,
Як і мораку подых, і ён – нада мною.

ДАЖБОГ

На пярыне з аблокаў, пярыне, ад сонейка чыстай,
ён, Дажбог,спачывае. Імгненне цячэ за імгненнем,
дзень за днём незаўважна. Я ж хмары чакаю дажджыстай.
І цвярдзее навокал зямля, нібы тое каменне.

Ні травінкі, ні дрэва, ні рэчкі сцюдзённа-празрыстай,
захавацца ад спёкі месца нават не знойдзецца ценю.
Бы памёрла ўсё. Не сустрэнеш на вулках турыстаў
і чарод вераб'іных з кожным днём усё меней і меней.

І лятуць, нібы птушкі. Над горадам сонныя душы
да нябёс… толькі Ён іх не чуе маленні.
Аніхто пабудзіць не пасмее і сон той парушыць…

Гэта – кара за пошасць і зло. І яе несці буду
за сябе і за іншых, за нашае ўсё пакаленне,
што згубіла сябе ў шале п'янак, юрлівасці, бруду.

РАДАЎНІЦА

На крыжы – ручнікі.
Цішыня – як малітва.
Спіць мой бацька пад крыжам.
Як заўсёды маўклівы.
П'юць вароны гарэлку
З напоўненых шклянак
І прыкусваюць сэрцам маім,
а не хлебам,
Што калісь атрымаў, з рук тваіх,
бацька мой.
Асцярожна ступаю
па жоўтаму жвіру –
Ён вось-вось
зёлянінай жывой забруіцца,
І слядоў сваіх бачу
глыбокія раны,
Што глыбей ад магілы тваёй –
бацька мой!

## МАРЭНА

На мяккай пасцелі, што з траваў і зёлак,
Пад цёплаю снежнай пярынай,
Свой баўлю я час, сустракаючы золак
З чароўнай красою-дзяўчынай.
Кранаюся вуснаў яе я нясмела.
Шапчу пра каханне ёй словы.
І пешчу яе беласнежнае цела,
І рукі, і шчокі, і бровы.
І ў жарсці згараю, не знаючы стомы,
І ў бездань лячу я ў знямозе…
Учора з гасцей я вяртаўся дадому,
Ды вось заблудзіўся ў дарозе.
Была ноч навокал: і змрок, і завея.
Стаміўся я крочыць па полю.
Не ведаў, куды заблукаў я і дзе я,
Згубіў і надзею, і волю.
Магчыма, пад нейкай бярозкаю гонкай
Знайду я спачын свой навекі?
А дома чакаюць і маці, і жонка –
Два  родныя мне чалавекі.
Як жыць без мяне яны, любыя, будуць?
Пральюць, мабыць, слёзак нямала?
Напэўна, паплачуць і хутка забудуць?
Вось  быў чалавек – і не стала.
Ваўкі абгрызуць мае белыя косці,
Не прыйдзе ніхто на спатканне.
Так думаў я ў час той без жалю і злосці…
Ды вось мне сустрэлася пані:
Яе пругкі стан пакрываў шалік гладкі,
Сатканы ўвесь з зорак-сняжынак.

На тонкіх руках яе з лёду пальчаткі
Зіхцелі, як гронкі ажыны.
Замест валасоў, бы магічнае штосьці,
Атульвала плечы ёй вецце…
Такой я не бачыў яшчэ прыгажосці,
Пражыў хоць нямала на свеце.
Як прывід, з'явілася перада мною.
Пачуў я праз шум завірухі:
«Калі пажадаеш – я буду тваёю,
Пазбудзешся смутку і скрухі.
Дык пойдзем! Там цёпла заўсёды і суха,
Маю ты пазнаеш пяшчоту…»
Другі дзень мяце навакол завіруха
І ладзіць над полем сумёты.
На мяккай пасцелі, што з траваў і зёлак, Далёка ад роднага дому
Я соладка сплю… Пачынаецца золак…
Мне чуецца голас знаёмы:
- Сумёт разгарніце, мо тут недалёка
Ляжыць яго мёртвае цела?..
Я вочы расплюшчыў. Нікога навокал –
Ні ложка, ні пані… Снег белы…

## ВАЛУНЫ

На палескіх балотах, ля рэк і блакітных азёр,
бы застылыя душы, ад веку ляжаць валуны -
сведкі даўніх стагоддзяў. Не маюць спакою яны
ад паганскіх часоў, як жыцця напамін ці дакор.

Тут, ля капішчаў, продкі, расклаўшы ахвярны касцёр,
Перуну пакланяліся, каб засцярог ад вайны.
Каб заможна жылося і сніліся светлыя сны –
Пакланяліся Цёці і мудраму Знічу між зор.

Ні агнём, ні мячом стодаў тых не разбураць гады.
У надзеі ці смутку спяшаюцца людзі сюды –
да дарадцаў нямых, каб сваёй падзяліцца бядою.

І вяртаецца вера з далёкай сівой даўніны,
і,пакрытыя мохам, ажываюць ізноў валуны,
каб маю Беларусь затуліць, засланіўшы сабою.

## ВІТАЎТ

Тупат вершнікаў чую на вуліцы начной.
Скрып дубовых варотаў і покліч Пагоні.
З пазабытых вякоў, здаўніны залатой
Гэта зноўку імчацца па Берасці коні.

Супыняецца час. Ява нікне, як сон.
Быццам заўтрашні дзень, лёс былое вяртае…
Вітаўт сходзіць з каня… Я пазнаў – гэта Ён,
Побач з ім варажбітка – княжна маладая.

Князь кранаецца вуснамі любай рукі.
Перуну пакланяецца ён, а не Богу.
Родны край атачылі паўсюль крыжакі.
Хутка сеча. І трэба збірацца ў дарогу.
Поўня з неба зляцела на Вітаўтаў шчыт,
І агнём зіхацяць помсты прагныя дзіды.
Пад харугваў – ліцвін і татарын, і жыд,
З пад Гародні, з-пад Менску, з-пад Воршы, з-пад Ліды.

Будзе цяжкай сяўба. Хто жніво сабярэ?
Не адзін з ваяроў сваю смерць напаткае.
За цаўё востры меч свой князь Вітаўт бярэ –
Не загіне краіна яго маладая!

Спіць Бярэсце ў зіхценні вітрын залатых,
Не пакінуўшы продкаў прыкмет, ні імёнаў…
Праз сівыя вякі ловіць чуйны мой слых
Навакол звон сталёвых мячоў і страмёнаў.

## ПАН КАХАНКУ

У італьянскім парку з ранку
Бруіць жыццё. Квітнее сад.
Як год і сто гадоў назад…
Каля стаўка, дзе пан Каханку
Блукае – нікне дзень паволі.
І Мірскі замак, нібы стод,-
Застыў маўкліва, а народ.
Хто – у касцёле, хто – у полі.
Музыка. Смех, барон цыганскі.
Паненак светлая краса.
Ўсе добра знаюць нораў панскі…
Вякі мінаюць… чэзне сад…
Ды гоіць час былыя раны.
І Мірскі замак, праз вякі,
Бы прывід, з шэрага туману
На нас глядзіць… усё такі ж:
Капліца княжая, альтанка,
Ставок, дзе часта бавіў час
Барон цыганскі – пан каханку, Глядзіць з
былых вякоў на нас.

# ГАД

Па-за плотам, з-пад дзікіх прысад,
Пазірае злавесліва гад.
Ён ахвяру штохвілю шукае.
Нават мыш тое месца мінае,
Пралятае над ім птах высока…

Паглядае пажадлівым вокам
Гад галодны за плот на дарогу,
Дзе пітво ёсць і ежы ёсць многа.

Там, на пляцы, натоўп ачмурэлы
Гострыць пікі, кінжалы і стрэлы,
Каб пакрочыць назаўтра вайною
На суседзяў сваіх… з сечай тою
Каля пляца, ля самых прысадаў,
Будзе ежа дармовай для гада…

Доўга бітва на пляцы кіпела:
Вось ляжаць яны цела да цела.
Дзе чужынец, дзе свой – не пазнаць?..

Гад з-пад дзікіх прысад выпаўзае.
Скуру – прэч! Вось убор чалавечы!
Гэта ён іх паклікаў на сечу.

## КАЛОДЗЕЖ

Мы падобныя адзін да аднаго – ТЫ І Я. Спакутаваныя,
Штохвілю назіраем, як нас зацягвае смеццем і тлом.
І нават зорачка не зіхаціць на паверхні нашых душ.
Усё знікае... Самотны вадзянік не бразне заржавелым вядром,
Весела не зарагоча. Няма яму мейсца ў тваіх калісьці
Крышталёвых водах, як і ў маёй душы. Усё зацягнута цвіллю.
І толькі пачарнелыя бочкі маўкліва чакаюць свайго апошняга
часу.

Я помню, як цябе капалі ўсёй вёскаю; як радаваліся ўсе,
Калі першы крынічны промень, прабіўшыся з-пад рыдлёўкі,
Вясёлкаю павіс у небе; як весела заскрыпеў журавель,
Штохвілю шэпчучы: “Я – КАХАЮ!” Як ноччу купалася поўня
У сцюдзённых хвалях тваіх.

Неўзабаве тут пасяліўся вадзянік.

Я часта вяртаюся зноў у маленства, туды, дзе маё цела
Належыць мне, падобнае да таго калодзежа, што ззяе мноствам
Кропель вады і ў сцюдзёных хвалях якога купаецца поўня.

Я веру, што ў гэтым калодзежы жыве вадзянік.

## БАЛАДА ПРА СУСТРЭЧУ

На вуліцы пустой, сярод змрочнае ночы,
Сустрэліся кат і ахвяра аднойчы.
Адзін – без рукі, а другі – без нагі,
Пакутнікі лёсу – адзін і другі.
Адзін, што безрукім прыйшоў з Курапат,
Другі, што выконваў бяздумны загад.
Між мораку цьмяна паблісквaў ліхтар…
Стаялі яны са спагадай ахвяр.
І хоць праміную не адзін ужо год,
З іх кожны – пазналі адзін аднаго,
Прайшлі скрозь агонь яны, церні і дым,
І кожны з іх думаў цяпер аб сваім.
Бязрукі: "Адпомсціць яму, аці не,
Растрэльваў што ён па загаду мяне?"
Бязногі: "Яго забіваць не хацеў,
Ды час быў такі – я ледзь сам уцалеў.
Сваёю крывёю даўгі  я сплаціў,
Калі Сталінград і Маскву бараніў…"
З іх кожны чужыя падлічваў даўгі –
Бязрукі паэт і маёр без нагі.
Стаялі мо час пад святлом ліхтара,
І ўрэшце бязрукі прамовіў: "Пара!
Жыві, я сягоння цябе не крану,
Бо ў час той з нас кожны сваю вёў вайну".
- Бывай! – яму  крыкнуў бязногі ўслед.

- Я рады. што жыць ты застаўся, паэт!..
І прочкі пайшлі праз дажджы і снягі,
Бязрукі – адзін, і бязногі – другі.

## БАЛАДА ПРА  БАЦЬКАЎ КАЖУХ

Вісіць на сцяне бацькаў кажух.
Бацькі даўно няма –
Сышоў за Сусвет.
Не спіцца ў бацькавай хаце:
Між змроку ночы я чую
Шоргат бацькавых ног.
Няўжо гэта бацька з поля
Вярнуўся?.. Ды – не!
Хто ж – гэта? Прывід? Ці насланнё?
Бліжэй і бліжэй тыя крокі:
Вось нада мной схіліўся,
Кранае за плечы:
«Сынку, уставай – світае!”
“Бацька – ты
гэта?”
Чую ў адказ:
“Я – бацькаў кажух!
Уставай, бо пара на працу –
Поле не ўзарана
І паламаны плот,
Двор зарос пустазеллем,
І пахілілася хата,
з таго часу, як з’ехаў ад нас…”
“А бацька дзе?”
“Ён – у Бога…”
Вочы расплюшчу – нікога:
Вечнасць, неба, і столь,
Направа – сцяна, і – налева,
Дол знізу – засеяны прахам,

Навокал – холад і змрок.
Вецер – не грымне дзьвярыма,
Не закрычыць варона,
І спуджана не заплача комін па-над страхой.
І толькі бацькаў кажух
Вісіць на сцяне,
Як Душа –
Распятая на крыжы.

## ЛЯСНАЯ БАЛАДА

Быў вечар. Ішоў я сцяжынкай лясной
З далёкай вандроўкі да дому.
Стаміўся… Прылёг пад вячыстай сасной,
Каб з цела зняць горыч і стому.

Бацькоўская хата прыснілася мне,
Дзе маці шчыруе ля печы.
Ды нехта, пачуў я, стаіць ля мяне.
Мае нехта кратае плечы.

Мо сон гэта нейкі дзівосны? Ці корч,
Ці сіла пачварная будзіць?
Я вочы расплюшчыў… Стаялі наўзбоч
Агідныя, змрочныя людзі.

З іх кожны: “Што маю – аддай нам! – шаптаў,
І трос кулаком перад тварам. –
Ты з гэтага часу рабом нашым стаў,
Ты нашаю  будзеш ахвярай!”

“Што даць вам магу я? – стагнаў я ў адказ.
Нічога з сабою не маю:
Ёсць зрэбная торба, а ў торбе той квас –
Бярыце! Я сам галадаю!”

“Не трэба нам торбы тваёй, ні пітва!
Душу нам аддай задарма ты,
І цэлая будзе твая галава, І вернешся
хутка да хаты!”

“Ды як жа душу я аддаць вам магу,
Бо гэта дарунак Хрыстовы?
Яе, як святыню, заўжды берагу,
І з ёю памерці гатовы!”

Ураз пасуровелі людзі-звяры,
Нібыта каменныя стоды: “Калі не
жадаеш – тады ты памры І знікні з жыцця
назаўсёды!”

Здалося, пад сэрца асінавы кол
Якісьці вар’ят заганяе…
Калі абудзіўся – нікога наўкол,
І толькі – ваўчыная зграя

Наводдаль стаяла, як лікі святых,
Мае – вартавыя і суддзі…
А людзі? Ніколі не бачыў я іх…
А мо й не былі гэта людзі?!

БАЛАДА ЗНІКЛЫХ ХУТАРОЎ

Былі дзе калісь хутары,
Адны знямелыя муры,
Дзе адзічэлы клён стары –
Стаяць, як вартавыя.
Цяпер тут пустка… Смех і крык
Людскі не патрывожыць слых.
Вядро не бразне, гоман сціх,
Воўк ноччу не завые.

Заўжды тут ціша і спакой.
Між гэтай цішыні лясной
Жылі і дзед, і прадзед мой,
Аратаі і воі.
І з веку ў век свой род вялі:
Саджалі бульбу, хлеб пяклі,
А свята выпадзе калі –
Гулялі талакою.

Ад гвалту і чужацкіх пут
Ў часіну лютую пакут,-
Свой баранілі родны кут
І гонар свій, і волю
З надзеяй: “Прыйдзе лепшы час,-
Бог у бядзе не кіне нас.
Есць малако і хлеб, і квас, І што нам
трэба болей?”

Вось так на свеце і жылі.
Ды людзі іншыя прыйшлі
На паляшуцкі край зямлі,
Каб свет пераіначыць:
Хто жабраком быў – стаў той пан.
Меў грошай шмат і масла збан,
Гарэлкі поўны акіян,
Каб жыў па людску значыць.

Каб быў агульны кожны двор
І поплаў, сенажаць, і бор,
І неба, сціжма ў небе зор,
І тое – што за імі.
А хто не згодны, дык такіх
Без шкадавання біць пад дых,
І трэба будзе нішчыць іх,
Ім – люты вораг – імя.

Стаў пеклам абяцаны рай:
Журба, знявер'е і адчай,-
Мой паглынулі родны край
Ад краю і да краю.
У кожны дом і кожны двор
Прыйшлі жабрацтва, голад, мор.
І не знайсці з яго атвор,
І кожны дзень – лякае.

Тут панам – злодзей стаў і хам,
Няма жыцця паляшукам:
Хто пад прымусам, нехта сам –
Пайшлі за лепшай доляй
У іншы свет, у іншы край –
Шукаць надзеі, хлеб і рай.
У родны дом, у родны гай –
Каб не прыйсці ніколі.

Нямала часу з той пары
Прайшло, знямелі хутары,
І толькі дзікія звяры
І птахі засталіся.
Ды іх не стала… Як пажар,
Маланкай што зляцеў з-за хмар,
Іх знішчыў новы гаспарар…

Надзеі – не збыліся.
……………………………………………………………
Па вулках крочу гарадскіх…
Прайшла залева, вецер сціх,
І дзічкі дзве ў руках маіх –
Ад прадзеда і дзеда.
На памяць час пакінуў іх
Мне, між развалін хутарскіх…
Спяшаюся  я кожны міг
Туды – стагоддзі еду.

## ВЯРТАННЕ

Быў час вечаровы. Стаялі ля храма –
Маленькі хлапчук  і ягоная мама.
Пакуль яшчэ свежыя кветкі трымалі –
З малітвай прыйшлі, ці кагосьці чакалі?
А можа, стамлёныя тлумам жыццёвым,
Прыйшлі адпачыць між цішы вечаровай?
Якая сюды прывяла іх патрэба:
Нястача жытла ці кавалачка хлеба?
Да іх падышоў я, стамлённы з дарогі, -
Мо нечым і я акажу дапамогу?
Ды толькі іх думкай сваёй я прывецілў,
Бо зніклі яны – не было як на свеце!
І там, дзе матуля і хлопчык стаялі,-
Чырвоныя кветкі ля храма ляжалі.
І воблакаў белым над дрэвам, над дахам
Віднеліся ў небе самотныя птахі…
За імі пайшоў уздоўж гмахаў, вакзала…
Ды, раптам, сцяна прада мною паўстала.
……………………………
Не чорнай была, не цаглянай, не белай,-
Сцяна з чалавечых зляпілася целаў,
Што нібы між пусткі зламаныя дрэвы,
Паўсюдна ляжалі: і справа, і злева.
Ляжалі – гурбою, ляжалі – сам-насам,

Нікім не кранутыя – тленнем і часам.
І тыя, што ўчора памерлі, і тыя,
Што век мо таму, - ўсе былі, як жывыя:
Зрок мелі і слых, і глядзелі, і чулі,
Як быццам яны на хвіліну заснулі.
…………………………
І дзень не прыходзіў. Кувала зязюля,
А побач стаялі – хлапчук і матуля;
Стаялі і ў вочы мне моўчкі глядзелі,
Як быццам спытаць мяне штосьці хацелі.
Да іх я звярнуўся з малітвай зямною:
“Дзе я, і што сталася сёння са мною?”
…………………………
Маўчалі зацята – і хлопчык, і маці…
І побач пачуў я плач ціхі дзіцячы:
Сядзеў ён, нібыта жабрак, пры дарозе
І рукі цягнуў да мяне ў знямозе.
З апраткі на ім не было анічога…
І быў гэта я…
ў ім пазнаў сам самога.
………………………
Дзяцінства вярнулася… Хліпала свечка,
А я адзінока сядзеў каля печкі.
І страшна было мне. За сценкаю ў сенях
Шкрабліся ці мышы, ці нечыя цені.
Хацелася некуды збегчы, схавацца,
Каб з гэтаю змрочнаю сілай не знацца.
Не бачыць, не чуць жаху ночы, пагоні…
………………………
Ды дотык адчуў я пяшчотнай далоні,
І зноў пасвятлела ў матулінай хаце.
Вярбой нада мною схілілася маці
І словы пачуў я: “Не бойся, сыночак!
Міне хутка ноч, як і іншыя ночы.
Усё прамінае. Вунь дзень за ракою.
Я буду, мой родны, заўсёды з табою.
………………………
Не ведаю: спаў я, ці можа прачнуўся,
Як зноўку ля той жа сцяны апынуўся,-
Узведзенай з душ чалавечых і целаў…
І ўбачыў, як родная вёска гарэла:
Гарэла – маленства, гарэла – Радзіма.
І свет запаўняўся смуродам і дымам.
Ляжаў я, схаваўшыся, моўчкі за плотам:

Глядзеў, як тапталі чужацкія боты
Надзею і веру, знаёмыя гоні,
Браты як мае паміралі ў палоне.
Як везлі сясцёр і дзяцей на чужыну…
Не вытрымаць,думаў, я думаў – загіну.
Ды голас пачуў у нябёсах прарочы:
"Ідзі і змагайся з цямрэчаю ночы!".
…………………………
Як бура, стагнала Грунвальдскае поле –
Ад сечы… І свет шчэ не бачыў ніколі
Такой. У клубок там звіліся адзіны
Тэўтонцы, палякі, татары, ліцвіны.
І заўтрашні дзень і даўно дзень мінулы,-
Змяшаўся ў вар'яцтве адзіным і гуле,
Што нішчыў усё навакол і калечыў.
І чуўся мне енк і праклён чалавечы,
І явай жывой паўставалі з нябыту
Пад ззяннем харугваў – Ягайла і Вітаўт.
Змяшаліся воі, і здані, і коні,
І чуўся мне кліч пераможны Пагоні,
Якую Радзіма-матуля вітала…
……………………
…Ды зноўку сцяна прада мною паўстала,
І тых галасы я пачуў за сцяною –
Каго я не ведаў, і жыў хто са мною,
А мо, пра каго я забыўся, хоць ведаў:
Чуў голас матулі, і бацькі, і дзеда,
І брата свайго, што памёр гэтак рана,
І пані, у якую я быў закаханы,
І тых, з кім усяго сустракаўся на хвілю.
Нічога яны ў мяне не прасілі.
Адно – памаліцца за грэшныя душы…
……………………………
Да храма, дзе быў так нядаўна я, рушыў,
Дзе хлопчык маленькі стаялі і мама;
Да храма душы і да памяці храма;
Да роднага дома, да неба, да Бога;
Да сёння і заўтра вяртала дарога,
Якой не было ні пачатку ні краю…
……………………………
Дакрочу ці я? Ці змагу я? Не знаю!

## У ПОЛАЦКУ

Зруйнаваныя палацы,
Рэшткі даўняе красы.
Ды і сёння, тут, на пляцы,
Чую продкаў галасы,
Што з вякоў даўно мінулых
Далятаюць да мяне.
Памяць сэрца не заснула.
Усё мацней, усё – мацней
Час змяняе быт і рэчы,
Ды нязменны продкаў Дух.
Ён у сэрцы чалавечым
Не аглохнуў, не патух,
Не растаў… Нібыта свечка,
Палымнее з году ў год.
Кліча Полацкае Веча
На агульны зноўку сход.
Праз гады і праз стагоддзі
Я вяртаюся да іх.
Зніч над местам узыходзіць.
Веча змоўкла. Горад сціх.

## НА КУПАЛЛЕ Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Кошык суніц па паляне стаіць без прыгляду
Міг, ці гадзіну, ці вечнасць –
Не ведае нават шэры крумкач,
Што на дубе пад небам начным гарлапаніць,
Кроплі-расінкі спякотнаму долу страсае.

Воўк прытаіўся пад дрэваў спляценнем,
Побач ахвяра, ды ён не пагнаўся за ёю.
З лесу цікуе, нібыта вяшчун самавіты.
Два чалавекі-звяры на сунічнай паляне
Полымя жарсці і шалу кахання збіраюць.
І прарастае праз целы іх папарać-кветка,
Новым жыццём каб наступнай вясной нарадзіцца...
У гушчары паўсляпых ваўчанят адмывае расою ваўчыца.

МУР

За каменем камень у мур я кладу
Да часу, калі сам на дол упаду.
І пад сутарэннем халоднага муру
Спачын свой знайду я...
І мур той пануры

Мне стане ахоўнікам цела і духу,
Боль высмакча з сэрца і вечную скруху.
Нішто не спасцігне: ні здрада, ні бура
Пад гэтым, стагоддзямі ўзведзеным, мурам.

***

Не згарыць на кастры продкаў стод неўміручы,
Не струхнее ад часу, ад гвалту, ані
Пад дажджом ці марозам, ці снегам сыпучым…
Вось зіма праміне і на белым кані

З недасяжных вышынь і нябеснага раю
Завітае Ярыла з вясною да нас.
І сурма заіграе ад краю да краю,
І сады расквітнеюць, і спыніцца час.

І як тысячы год, над вясёлкавым полем,
Затрапеча жыццё міліярдамі струн.
Адгукнецца надзеяй, самотай і болем
З недасяжных вышынь срэбрарусы Пярун.

## 4. УВАСКРЭСЕННЕ ІУДЫ

(Містэрыя ў чатырох дзеях)

Дзеючыя асобы:

Іуда
Цар Саламон
Люцыпар, ён жа Дыпламат
Хама
Паэт
Кашчэй
Міністр
Маршал
Святар
Тітаратар
Актор
Міс “Прыгажосць”
Жабрак

Доктар
Чалавек ў масцы
Вайскоўцы
Натоўп
Валадар

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Кабінет галоўнага ўрача вар’ятні. Заходзіць чалавек у масцы.

Доктар
Каго прывезлі? Жабрака? Прыблуду?
Чалавек у масцы:
Ды аднаго філосафа, які
З чыёй, не знаем , лёгкае рукі
Сябе заве мянушкаю – Іуда.
Доктар
А хто тады на самай справё ён?
Чалавек у масцы
Сцяпан Пятровіч Кучма – паштальён.
Доктар
Вялікі грэшнік?
Чалавек у масцы
Грэшнік ці святы –
Не ведаю…
Паштоўкі і лісты
Разносіў ён…
І між людзьмі пры гэтым –
Сябе Іўдай зваў.
Казаў,
Што па-за свету
Вярнуўся ён
Каб несці праўды словы.
Доктар
Што ён жадае?
Чалавек у масцы
Хоча ён нанова
Быццё пераглядзець:
Дзе існасць, дзе мана.
І вось прыйшоў да гэткае высновы,
Што прадаецца ўсё – жыццё і мова…
Доктар
Мо і дзяржава?
Чалавек у масцы

Кажа, што й яна.

<u>Доктар</u>

Свой кошт на свеце, пэўна, кожны мае:
І ты, і я, і хворы наш вар'ят,
І валадар, і кашавар, і кат, -
Ды розны кошт.

<u>Чалавек у масцы</u>

Ён іншае сцвярджае:
Што на зямлі нішто не мае кошту,
Кошт – ёсць жыццё, што дадзенае нам

<u>Доктар</u>

Тады жывём на свеце мы навошта?
Як без цаны?
Выходзіць, нейкі хам
Такі ж як я?

<u>Чалавек у масцы</u>

…Гаворыць ён прылюдна,
Філосаф гэты, нейкі паштальён,
Што за Хрыста з'явіўся ён, Іуда…
Нібы жыццё зямное – гэта сон.
Тут роўныя звяры, аблокі, дрэвы,
І Бог, і цар, і нат жабрак нямы,
І злодзей, не вылазіць што з турмы.

<u>Доктар</u>

І гэта ўсё?

<u>Чалавек у масцы</u>

/спалохана/

Аднойчы ён у гневе
Казаў, што валадар наш – д'яблаў брат, -
Ні хлеба не дае ён, ні свабоды.

<u>Доктар</u>

Турма яму патрэбная, ці кат?

<u>Чалавек у масцы</u>

Не даў на гэта валадар наш згоды:
Жадае ён народу паказаць
На прыкладзе вось гэтакіх Іудаў,
Што можа ён не толькі іх караць,
А й мілаваць…
Хай на пацеху люду
Вар'ятам стане сапраўды, калі
Яшчэ не стаў ім…

/чуецца стук у дзверы. Два вайскоўцы ўводзяць Іуду/

Вайскоўцы
Вось ён, прывялі.
/выходзяць/
Доктар
/аглядвае хворага/
Мо скаргі ёсць?
На што?
Вы мне скажыце.
Іуда
Не хворы я.
Прашу вас, адпусціце!
Я не вар'ят…
Доктар
А хто?
Ангельскі шпег7
Ці Бог?
Ці валадар ты?
Іуда
Я – Іуда…
Іуда я.
Доктар
/здзекліва/
Вось гэта – проста смех.
Быў – і няма.
Такіх не бачыў цудаў.
А дзе, скажы мне паштальён Сцяпан?
Іуда
Не знік – памёр ён ад духоўных ран.
Душа яго не вытрымала здзекаў
Над светам, над сабою, над людзьмі.
Не пажадаў застацца чалавекам:
"Душу маю, - сказаў ён мне,– вазьмі".

Доктар
/сам да сябе/
Хто ў кім, не разгадаць.
/звяртаецца да Іуды/
Ты – у Сцяпане?
Ён – у табе?
Хто мёртвы, хто жывы?
Паверыць мне ў чыё, скажы, кананне –
Яго, а ці тваё?
Іуда
Сканалі – вы…

Бо прадаліся целам і душою
Люцыпару і служкам сатаны.

Доктар

Ты – сапраўды, вар'ят.
Ну, Бог з табою.
Чаго ты хочаш?

Іуда

Згінуць без віны.

Доктар

Ды ты ж павесіўся калісьці.
Ад кулі смерць, пятлі – ці ж не адно?
На дне жыцця ты.

Іуда

Шчэ глыбей тут дно,
З яго вам без мяне не выйсці.

Доктар

Ці сам ты знаеш выйсце?
Я – не знаю.
І, думаю, не ведае ніхто.
Капацца ж у гразі табе не раю.

Іуда

Мне несці крыж,
Як нёс яго Хрыстос.
Ён не цураўся беднасці і хлуду,
А сам быў светлы, чысты, як раса.

Доктар

/здзекліва/
Але аднойчы ён сустрэў Іуду…
Дапамагла яму краса?

Іуда

Я змыю кроў з крыжа сваёй крывёю
І гэтым даўні род прадоўжу свой!

Доктар

Ты здрадаю застаўся жыць сваёю…
І колькі жыць яшчэ пад ёй?

Іуда

За здрадніцтва я атрымаў адплату,
Калі як ёсць цяпер я, без прыкрас.

Доктар

Ты іншым стаў?
І ты не вінаваты?

Іуда

Я вінаваты…

Як і кожны з нас.

Доктар

Цяпер ты каешся…
Разумны стаў, нібыта?
Вярнуўся,
Каб змагацца за народ?

Іуда

Панёс я кару і паўстаў з нябыту,
Каб растапіць хлусні і здрады лёд.

Доктар

Ты думаеш, што сапраўды так будзе?
Дык – мроя гэта, глупства, пустата.
І хто паверыць, ты скажы, Іудзе,
Які прадаў за срэбнікі Хрыста?

Іуда

Я шчыра веру – гэты час настане.

Доктар

Нат і тады халоднае маўчанне
Заглушыць веры парастак жывы,
Бо страх людзьмі кіруе.

Іуда

Страх?
Ці вы?

Чалавек у масцы

Закон – і толькі.
Апрача закону,
Няма нічога,-
Ён кіруе, ён.

Іуда

Днём нараджэння?
Шлюбу днём?
Днём скону?
І над душой таксама ёсць закон?

Чалавек у масцы

І над душой.
А як жа без закону?
Дай толькі волю сёння аднаму,
Ён тут жа перакінецца ў варону:
Бач, каркаць захацелася яму.

Іуда

Дык што, як птушкай хоча стаць?

Чалавек у масцы

З-а-а краты.

Іуда

Той, хто законы вашы выдае,-
Будуе турмы, нараджае катаў…
Для вас саміх закон не існуе.

Чалавек у масцы

Ты не вар’ят.
Ты – болей за вар’ята.
/звяртаецца да вайскоўцаў/
У сёмую, што з кратамі, палату!
/вайскоўцы выводзяць Іуду/

ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Палата №7, дзе акрамя шасці жалезных ложкаў і стала, больш нічога няма. Вокны закратаныя. Адзін з хворых – па мянушцы цар Саламон – звяртаецца да Іуды.

Цар Саламон

Ну, вось і папаўненне ў нашым доме
Як зваць цябе?

Іуда

Іуда.

Цар Саламон

/працягвае рукі для правітання/
Саламон,
Цар гэтае зямлі – ад першых дзён
Да дзён апошніх.
Вось мы і знаёмы.
/паказвае на паэта/
А гэты, нізкі, у капялюшы –
Іванька-дурань.
Наш паэт вядомы.
Не ведае ні днём , ні ноччу стомы –
А піша, піша…
/паказвае на Люцыпара/
Гэты –
Ні душы, ні розуму,
А толькі плоць нямая.
Жанчын няволіў, нібы нейкі звер.
Служыў, ці то ў Егіпце, ці ў Кітаі…
Люцыпарам сябе заве цяпер.
/паказвае на Хаму/
Хама
Ці Хомка,

Сам таго не знае,
З якога роду, племяні, сяла.
Жабрацтвам на жыццё ён зарабляе
Ля храмаў, ля вясельнага стала…
/паказвае на Кашчэя/
Актор.
Такім ён быў сярод людзей.
Жыў вольна.
Для самога ягамосця
На балях ён спяваў.
Завём – Кашчэй,
Бо скура толькі ёсць на ім і косці.
/звяртаецца да Іуды/
За што, скажы, патрапіў ты сюды?
Іуда
За праўду.
Цар Саламон
А каму яна патрэбна?
Іуда
Без праўды жыць самотна і ганебна.
Цар Саламон
Калі я быў таксама малады –
І я так думаў.
Верыў,
Прыйдзе час.
І збудзецца душы маёй жаданне:
Мане не будзе мейсца сярод нас.
І запануюць радасць і каханне.
Іуда
Што ў сэрцы веру знішчыла тваю?

Цар Саламон
Жыццё…
Чым больш гадоў і дзён мінае
(здзіўляцца лёсу не перастаю),
Тым больш душа ненавісцю палае.
Іуда
Ненавісць…
Да каго?
Цар Саламон
Да ўсіх на свеце
І да сябе,
На свой нікчэмны лёс.
У іншых ёсць свая сям’я і дзеці,

Але ў мяне...
/паказвае на нос/
Хіба – уласны нос.
Быў шчэ дзіцячы дом,
Турма,
Блуканне...
Нібы сабакі, гналіся за мной,
І нават першае маё каханне
Зняважылі...
Там...
Лагерны канвой
Упадабаў маю дзяўчыну – Насцю...
Не вытрымала ганьбы той яна...
Я верыў.
Жыў...
Для радасці і шчасця.
І вось я тут.
У чым мая віна?
Іуда
Граху няма
І ёсць...
Святло і морак
Заўсёды поруч,
Як дабро і зло.
Адным на небе вечна ззяюць зоры,
Другім нязгасна ззяе серабро.
Адным патрэбна слава і багацце,
Другім спакой і гучны спеў вясны.
Мы грэшныя даўно, з улоння маці,
Але святыя ля сваёй труны.
Ні праўды,
Ні віны тваёй
Не бачу.
Ты сам сабе суддзя і адвакат,
Жыві – і вер.
Люцыпар
Я думаю іначай:
Народжаны на свет,
З нас кожны – кат.
Хама
Што існуеш у тым віна і ёсць.
Паэт
Ты на зямлі не гаспадар, а госць.
Люцыпар

Дык ад жыцця бяры чым больш,
Што трэба.
З прычыны,
Без ніякіх там прычын:
Жадаеш – грошы,
Калі не – жанчын,
Людскія лёсы,
Поле,
Сонца,
Неба.

Цар Саламон

Пазбыўся я даўно высокіх мэт.
А мроямі жыве хіба паэт.
/звяртаецца да паэта, які ў гэты час нешта піша/
Эй, ты, паэт, пра што ты пішаш зноў:
Пра генія,
Ці здрайцу, ці героя,
Пра край,
Яшчэ не знаны,
Твая мроя?

Хама

Пра грошы…

Люцыпар

Пра эротыку і блуд.

Кашчэй

І нам што-небудзь, можа, прачытаеш?

Паэт

Пра што пішу?
І сам таго не знаю.

Цар Саламон

Мо не ў вар'ятні ты?

Паэт

Мо і не тут.

Цар Саламон

/раздражнёна/
Не тут,
Не тут!
А дзе, скажы, тады?
Бадай у райскім садзе?
Па-за светам?
Ніколі, можа, ты й не быў паэтам.

Паэт

Не ведаю,
А райскія сады

Яны паўсюль.
<u>Цар Саламон</u>
Ці не ў пакоі гэтым?
<u>Паэт</u>
І тут таксама…
Чуеш, як шумяць
Лістотай дрэвы,
Цінькае сініца.
Вось у гняздзечку птушаняты спяць,
Ім возера рамонкавае сніцца.
<u>Цар Саламон</u>
Цябе паслухаць – легчы ў дамавіну.
/здзекліва звяртаецца да ўсіх/
Зірніце, мо хто бачыць тут жанчыну?..
<u>Іуда</u>
/перапыняе/
Даволі.
Бо няма прычын для здзекаў!
<u>Цар Саламон</u>
Чым тут яшчэ заняцца чалавеку –
Гарэлка, косці, карты, даміно?
Столь,
Сцяна,
Падлога.
За кратамі знямелае акно
І маскі,
Маскі,
Маскі…
Нават Бога
Няма.
<u>Паэт</u>
Бог у душы жыве
Ён ёсць і будзе ў кожным нашым слове.
У зорках, дрэвах, птушках, у траве.
<u>Цар Саламон</u>
Ну, хопіць.
Мо паслухаем, панове,
Кашчэяў спеў…
/звяртаецца да Кашчэя/
Глядзі,
Зусім засох –
Нібыта цень,
Што над зямлёй кружляе.
Паслухаем,

Які ён ёсць,
Твой Бог!
Дык, паспявай…
Кашчэй
А зараз праспяваю
Адзін шчэ невядомы вам санет.
/паказвае на паэта/
Не радасці шукаю, а пакуты.
Спакой і асалоду – прэч ганю;
Як матылёк да згубнага агню,
Да неспакою лёсам я прыкуты,
Сам на сябе накладваю я путы,
Ва ўсіх зямных грахах сябе віню
І, славячы крыніцы чысціню,
Сабе я ў келіх лью настой атруты.
Адрынуты, каханне я шукаю
І пешчу сэрца думкай пра Яе,
Калі перамагчы мне сіл стае,
Ад той жанчыны, што мяне кахае,
Я прэч бягу… Мне зноўку сніцца тая,
Якую не хвалююць сны мае.
Цар Саламон
Што тут мы, што на нашых вокнах краты,-
Выходзіць, толькі самі вінаваты?
Іуда
Выходзіць, так
І нашая віна –
Маўчанне наша,
Наша аняменне
І што свае схіляем мы калені
Перад маной…
Паэт
На вуліцы вясна.
Душа вясной разбуджана таксама,
А недзе там,
У вёсачцы глухой,
У госці да сябе чакае мама…
Цар Саламон
/здзекліва/
І думае:
Дзе ж сын падзеўся мой?
А ён сядзіць
Спакойны
У вар’ятні,

Складае вершы пра вясну і сад.
 /Пакрыўджаны паэт адыходзіць у кут пакоя/
<u>Іуда</u>
Уцёкі – немагчымыя?
<u>Цар Саламон</u>
Назад
Нас хутка вернуць…
І спакой наш хатні
Заменіцца на бізуны і здзек.
<u>Іуда</u>
Для іх мы, пэўна, і зусім не людзі?
<u>Цар Саламон</u>
А там, на волі, што ёсць чалавек?
<u>Іуда</u>
Дык горш, чым тут, ужо нідзе не будзе.
Як хочаце,
А я адсюль збягу.
<u>Цар Саламон</u>
Куды?
У пушчу,
Пекла,
Ці да Бога?
Скажы,як збегчы ад сябе самога?
Ці зможаш ты?
Я не…
А ты?
<u>Іуда</u>
Змагу.
 /звяртаецца да ўсіх/
Са мною пойдзе хто?
<u>Паэт</u>
Я не пайду.
<u>Кашчэй</u>
І я таксама.
<u>Люцыпар</u>
Мне і тут нядрэнна:
Накормяць і напояць задарма.
<u>Іуда</u>
Калі ж вас за сабою павяду?
<u>Цар Саламон</u>
Нам не патрэбны новыя месіі.
Іх безліч,
А імя ім легіён.
<u>Іуда</u>

Вядзі ж народы за сабой святыя!
Цар Саламон
Вядзі?
На смерць,
На бітву,
У палон?
Люцыпар
/паказвае на Іуду/
Ён здраднік,
І яму вы больш не верце!
Іуда
Я зычу толькі шчасця і дабра.
Цар Саламон
Жыць без турбот і без турбот памерці –
Вось шчасце наша.
Люцыпар
І навошта рай!
Іуда
Дык – памірайце!
Мне б хоць міг адзіны
Пажыць свабодным.
Люцыпар
Мы – усе згарым.
Цар Саламон
Сябры мае,
Забыўся я зусім:
Кашчэй святкуе сёння нарадзіны.
/звяртаецца да Кашчэя/
І колькі?
Кашчэй
Сорак пяты скроні студзіць,
А мне здаецца, што й зусім не жыў.
Адбаляваў.
Хоць праўдзе я служыў,
Ды ўсё ж ліхія вынайшліся людзі:
Данеслі на мяне валадару, Што ў песнях
пра свабоду гавару.
Паэт
І на мяне,
Што Фрыдрыху радня…
Хама
А я тут сам не ведаю, за што:
Гнуў горб зімой і летам я штодня.
Ні ботаў не займеў, ні паліто.

Іуда

/звяртаецца да Люцыпара/

А за якія ж трапіў ты грахі?

/Люцыпар маўчыць/

Цар Саламон

Ты не чапай яго, бо ён глухі,
Калі ягонай тычыцца хваробы…
Бацькі яго вядомыя асобы.
Каб вызваліць ад сораму й брыды,
Дык памясцілі родныя сюды,
Бо пра яго паўсюль благая слава –
Ён гвалтаўнік…

Люцыпар

А вам якая справа?

Іуда

Няхай яму за ўсё даруе Бог.

Цар Саламон

За ганьбаванне цнотніц, іх пакуты?

Паэт

Глуміць красу і годнасць – як ён мог?

Цар Саламон

/шэпча на вуха Іудзе/

Аднойчы ўзяць, ды ўліць яму атруты.
Няхай канае роспачна і доўга,
Такім даўно не месца на зямлі.

Іуда

Ці маем права мы?
Ёсць воля Бога.
Вось ты яго…
А як цябе калі?!

Цар Саламон

/сам сабе/

Віно бруіцца!
Пачынайся, свята!
Дзень гэты вельмі хутка прабяжыць,
Надыдзе ўсё-ткі за грахі адплата.
Нежыць яму,
Люцыпару – не жыць.

Кашчэй

/сам сабе/

Чым горшы за мяне ён ці Іуду?
З нас кожны так падобны да яго:
Не здолеў збавіцца ад п’янства, блуду,
Ва ўцеху жыў і пазбягаў нягод.

Паэт
/сам сабе/
Няма,
Німа нікому даравання
За ганьбу,
За ману,
За хворых і калек.
Але ўваскрэснуць лад, любоў, каханне...
Хама
/сам сабе/
Люцыпар наш, бадай, звышчалавек.
Люцыпар
/сам сабе з усмешкаю/
Нікчэмныя:
З ілжы,
Самоты,
Тлуму –
Куды ж вы імкнецеся?
Ну, куды?
О не,
Вам не ўхіліцца ад бяды,
Як і маёй не разгадаць вам думы.
Ніхто –
Ані Паэт,
Ні Саламон
Не ведаюць,
Што блізіцца іх скон.
Іуда
Што кепскага мы ўспамінаем зранку?
Жыццё!
Яшчэ не скончана яно!
Цар Саламон
Хама!
Хама!
Нясі на стол салянку –
Сягоння свята!
Даставай віно!

## ДЗЕЯ ТРЭЦЦЯЯ

Зала высокіх пасяджэнняў. З аднаго боку стала – Міністр, Маршал, Дыпламат /ён жа Люцыпар/, з другога – Святар, Літаратар, Актор, Міс “Прыгажосць”

Міністр
Як жыць далей?..
Эліта скрозь бунтуе –
То мова ёй не тая, то сцягі,
Што заўтра раскажу Валадару я?
Што хутка -  крах, паўсюль адны даўгі?
Што нам не выбрацца ніколі з бруду,
Што ўжо не любіць нас і просты люд?
Яшчэ з'явіўся нейкі там Іуда,
Які свой край пазбавіць ад пакут
Клянецца і вярнуць народу веру.
Дыпламат
Пусціць Іуду трэба пад сякеру.
Міністр
Народ што скажа?
Маршал
Што казаць яму?
Ён – прамаўчыць.
Дыпламат
На плаху ці ў турму
Хто па сваёй ісці жадае волі?
Міністр
А раптам бунт?
Маршал
Не быць таму ніколі!
Святар
Яму цяпер, магчыма, дапаможа
Закон грамадскі...
Не!
Дык словам Божым
Яго накіраваць на верны шлях.
Дыпламат
А што ваш Бог? Ці Будда? Ці Алах?
Суддзя азін патрэбен.
Іх жа многа.
Святар
Бог шматаблічны
І адзіны Бог.
Ён годнасць наша.
Дыпламат
Колькі з імем Бога
На вогнішча пасламі і ў астрог?
Не дапамог ні Бог ім, ні маленні...
Святар

Такі быў час, і Бог тут ні пры чым.
Ён вытратаваў душ людскіх не меней,
За гэта мы і ганарымся ім.
Дыпламат
Дык гэта казкі вашы, а не былі,
З пачатку хрысціянства, столькі год,
Не Бога вы, адно сябе любілі
І імем карысталіся яго.
І любіце…
Святар
Ад гэтых слоў я ў скрусе…
Дыпламат
Ці соладка не хочацца пажыць?
Міністр
/перабівае іх/
Не для забавы ён прыйшоў, баюся.
Святар
Ну, калі так, – тады не грэх забіць,
Не грэх.
Дзеля дабра – царква даруе.
Літаратар
Ён проста кепскіх начытаўся кніг.
Я іншых дам
Ці сам і напішу я.
Дыпламат
Няма карысці  з кніжыцаў тваіх.
Ніхто іх…
Нават я іх не чытаю.
/звяртаецца да Міністра/
Аддайце мне яго на дзень-другі,
Яму я хутка вылечу мазгі.
Міс “Прыгажосць”
Скажыце, а паненак ён кахае?
На дзень ці ночку да мяне, у ложак,
Забудзецца пра ўсё на свеце ён:
Ні гаварыць, ні есці нат не зможа –
Салодкі будзе гэтакі палон.
Дыпламат
Калі ж ён імпатэнт ад нараджэння?..
Міністр
Купіць яго – грашыма ці жытлом?
Каго не ўсцешыць свой уласны дом.
Маршал
Ці катаваць.

Паставіць на калені.
Актор
Хто зразумець чужое зможа гора?
/глядзіць у паперу, пафасна цытуе/
“Жыццё – гульня,
А мы – яго акторы,
І кожны з нас сваю гуляе ролю...”
Міс “Прыгажосць”
Яму б наркотыкаў ці алкаголю,
Няхай жыве,
Няхай блукае ценем.
Міністр
Дзе ж сам Іуда?
Маршал
Будзе праз імгненне.
( Усе пазіраюць на дзверы. Два вайскоўцы прыводзяць Іуду.)
Міністр
/звяртаецца да Іуды/
Чаго маўчыш?
Дык ты і ёсць Іуда?
Дыпламат
Казалі, што ослом ты ці вярблюдам
Народжаны...
Маршал
Што маеш два гарбы?
Міс “Прыгажосць”
А ты нічога,
Крышачку рабы,
Але й такім цябе я пакахаю.
Іуда
Не рабацінне –
Гэта сонца ззяе.
І я, і вы – ад сонца, ад вады.
Зірніце,
Хто шчэ бачыць, вось туды...
/Паказвае ў акно. Усе напружана ўзіраюцца/
Святар
Блазнерыць хопіць!
Там няма нічога.
Іуда
Не бачыце слядоў вы нават Бога!
Чаму вы навучаеце другіх –
Ці не блюзнерству?
Хмары,

Дрэвы,
Зоры –
Душа яго, яго жывыя творы,
Ды прачытаць не зможаце вы іх.
Міністр
Навошта?
Ёсць у нас свае законы,
У іх – усё: і што, і дзе, і як.
Святар
Пра ўсё святыя кажуць нам іконы.
Міс “Прыгажосць”
Ды варажбіткі з вуліц – за пятак.
Літаратар
Чытаць…
Ці варта?
Дрэвы,
Зоры,
Хмары, -
Якімі бачыш гэткімі пішы.
Рэаль жыцця найперш. А потым – мары.
Маршал
Душа!
Я пражыву і без душы –
Была б улада.
Міс “Прыгажосць”
Грошы.
Літаратар
Кніжкі.
Актор
Слава.
Дыпламат
А хтось казаў, што ісціна ў віне…
Ёсць вечны я,
І вечная дзяржава.
/звяртаецца да Іуды/
І ты смяротны…
Ці пазнаў мяне?
З нас кожны мае свой жыццёвы выбар:
Камусьці – пекла,
А камусьці – рай.
Тут, на зямлі…
Ну, дык пазнаў?
Іуда
Люцыпар…

Дыпламат
Так, гэта я…
Дык хоць руку падай.
/працягвае для прывітання руку, Іуда сваёй рукі не падае/
Іуда
Што ты атручаны,
Чуў неаднойчы плёткі,
І атруціў цябе цар Саламон.
Дыпламат
Я кубак падмяніў – ахвяра ён.
А мог бы жыць,
Ды шлях яго кароткі.
Перахітрыць мяне хацеў,нябога,
Ды разумнейшы і спрытнейшы я.
Цяпер ён – там.
Туды яму дарога…
А ці збылася ісціна твая?
Іуда
Маёй – няма,
Ёсць іціна – Сусвету;
Ёсць ісціна святла і нематы.
Дыпламат
Яшчэ скажу, не стала больш паэта,
Таксама залыгаўся, як і ты.
Чаму ён так зрабіў – не разумею,
Здаецца, ён зусім не дурань быў.
Іуда
Не мог ён жыць без веры і надзеі,
Таму й памёр, што час свой перажыў.
Літаратар
Ён шмат хацеў, а жыць нам трэба проста.
Што нам Сусвет? Калі ў нас ёсць зямля…
Вось я жадаю жыць да дзевяноста
Сягоння.
Так,
Як ёсць.
А не пасля.
Дзень сённяшні тварыць – вось прызначэнне.
Пра заўтра іншы скажа хай паэт.
Вось – гэты час,
Вось – гэтае імгненне…

Іуда
Ці існуе ён – сённяшні наш свет?

За далямі якімі ён, снягамі?
Ён Дух ці рэч?
Тады ідзі – вазьмі.
Міністр
А што стаіш  ты зараз перад намі.
Што гэта?
Іуда
Я стаю перад людзьмі –
Часцінкамі матэрыі, бязмежжа,
Пачаткам свету і яго канцом.
Ні я,
Ні вы,
Сабе мы не належым…
Святар
Дзеля чаго?
Для Бога мы жывём.
Іуда
Гармоніі й жыцця,
Жыцця і ладу,
Гармоніі Сусвету і Душы.
Дыпламат
З’явіліся на свет мы дзеля ўлады.
Святар
Пакаяцца.
Іуда
Каб зноў і зноў грашыць?
Сябе спазнаць – у тым да Бога выйсце.
Дыпламат
Мінаюць дні,
Ў  нябыт плывуць гады,
Ды кожны з нас дзеля сваёй карысці
Жыве і жыў,
І будзе жыць заўжды.
Міністр
/звяртаецца да Іуды/
Шукаеш грошай, славы?
Ну, прызнайся…
Святар
Ты ведаеш, Хрыстос казаў: пакайся!
Міністр
Падумай!
Мы жыццё табе даруем.

Іуда

Жыццё даўно падаравана мне,
Забраць яго не здолееце, не!

Маршал

Прыслухайся!
З табой мы не жартуем.

Іуда

Мая душа – у вырай адляцела,
Яна з'яднана з небам і зямлёй.

Маршал

Ды ёсць катоўня
І слабое цела,
Якія прымірыцца розум твой
Прымусяць.

Іуда

Ды не вырвуць з сэрца веры.

Літаратар

А наша вера ў аркушах паперы:
Аповесць пішаш – верыш у яе.
Пражыў жыццём і марамі герояў
І раптам заўважаеш – гэта мроя.
Так – мроя: і жыццё, і сны твае
/звяртаецца да актора/
Вось ты, актор,
На сцене колькі год
Рамэа закаханага іграеш?
Штораз, калі ў пакутах паміраеш
У ладкі табе пляскае народ.

Актор

/цытуе/
Жыццё!
Жыццё:
Адвечная забава…

Міс "Прыгажосць"

Уявіць нехта, што не мае права
На здраду і пакутуе ўвесь век.

Іуда

Бо - ёсць яго Душа,
Ён – чалавек!

Дыпламат

Так – чалавек.
Вось ісціна, якую
Не здолееш аспрэчыць нават ты.

Літаратар

Ён есць і спіць,

Яго б'юць і цалуюць.
Маршал
Жаўнер ён.
Святар
Ён і грэшнік, і святы.
Дыпламат
Не чужыцца яго душа нічога:
Ні зайздрасці,
Ні злосці,
Ні маны.
Заўжды бяздонне паміж ім і Богам.
Няма яго зусім у тым віны,
Што ён на свет народжаны аднойчы
Для смутку, для надзеі, для пакут,
Што хлусіць ён нахабна так, у вочы,
Табе і мне…
І не пазбыцца пут.
Іуда
Жыць трэба – у сабе,
І трэба – звонку.
З Сусветам, нібы з сябрам размаўляць.
А наша цела – толькі абалонка,
Якую мы не прагнем разарваць.
Міністр
Усім тут месца хопіць і табе,
Будзь толькі з намі ты заўсёды ў згодзе.
Іуда
Адно на чыстай глебе жыта родзіць.
На камянях – не веснавац сяўбе,
Як не пунсовець кветцы на марозе,
Так не спазнаць і радасці без слёз.
Быць з вамі мне зусім не па дарозе,
Інакшы мне наканаваны лёс.
Міністр
Які твой лёс – і нам усім вядома.
Дыпламат
Жадаеш,
Я пра лёс твой раскажу:
Ў цябе ані сям'і няма, ні дома,
Ты сам накрэсліў для сябе мяжу:
Адрокся ад жыццёвых асалодаў,
Уцех кахання.
Не маніў,
Не краў.

Ты на пакуты вечныя даў згоду –
І сам прысуд сабе ты падпісаў.

Іуда

Распусна жыць ці гвалтам – не жадаю,
А для душы вышэйшы ёсць закон.
Вас не кляну…

Маршал

Згадзіцца раю!

Святар

Ды, звар'яцеў зусім,
Глядзіце,
Ён.
Што з блазна ўзяць?
Мо адпусціць дахаты?

Міністр

Яго – за краты!

Дыпламат

Так, - яго за краты!..
/вяскоўцы выводзяць Іуду/

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Пляц. На троне сядзіць Валадар. Ля яго стаіць Міністр, Маршал, Дыпламат, Літаратар, Святар, Актор, МІС "Прыгажосць". Ідзе святкаванне дваццатых угодак праўлення Валадара. Натоўп пяе, весяліцца. На пляцы з'яўляецца Іуда.

Галасы з натоўпу:

- Іуда…
- Збег з вар'ятні…
- Ён ці не?
- Але з вар'ятні збегчы немагчыма…
- Самому, кажуць, служыць сатане:
- Стаць можа рэчкай ці струменем дыму…

Іуда

/звяртаецца да натоўпу/
Служу я Богу,
Божым служкам буду,
Пакуль квітнець надзеі і вясне.
Вы час сустрэлі свой, а не Іуду.
А вы хто?
Анямелі вы ці не?..

Натоўп

Мы – гэта мы,
Мы – гэта мы.

Вось нашыя стаяць дамы.
Іуда
Радзіма  ваша дзе7
Ваш край?
Натоўп
Рай!
Рай!
Рай!
Іуда
Што робіце вы ў гэтым краі?
Натоўп
Паміраем!
Іуда
А болей што?
Натоўп
Нічога.
Іуда
Чаго вы ходзіце пад богам?
Натоўп
А ты?
А ты?
А ты?
Іуда
Прыйшоў да вас, каб праўду несці.
Натоўп
Ёсці!
Ёсці!
Ёсці!
Іуда
Далей так немагчыма жыць!
Натоўп
Піць!
Піць!
Піць!
Іуда
А дзе ж народ?
Няма народа…
Натоўп
Згода!
Міністр
/падыходзіць да Іўды/
Табе не месца ў доме гэтым,
Калі ты даражыш жыццём –
Прэч з дому нашага!..

Іуда

Ваш дом – мой дом.

Міністр

Твой – па-за светам,
А гэта – наш
І наша свята.
Мы не дамо яго вар'яту
Зняславіць...
/звяртаецца да натоўпу/
Вось ён.
Хто Хрыста
Забойцам выдаў.

Натоўп

Сва-ла-та.

Міністр

Калі б не ён, з ягонай здрадай,
Былі б у нас спакой, парадак
І ў кожнай хаце дабрабыт.
Жылі ў любові б мы і згодзе,
Але яго цярпець нам годзе –
Бандыт ён!

Натоўп

Так!
Бандыт!
Бандыт!

Міністр

Няхай ідзе ад нас ён прэчкі:
Мінае нашы вёскі, рэчкі –
Хай жах яго адсюль жане!
/здзекліва/
Даруем мо яму?
Ці не?

Натоўп

Не-е-е!

Іуда

/звяртаецца да натоўпу/
Вы ненавідзіце мяне,
Што я Хрыста прадаў?
Вы – не?
А ці не з вашай добрай згоды
Пазбыўся ён сваёй свабоды
І смерць пакутніка прыняў?

Святар

З тваёй!

Іуда
Я толькі хабар браў,
А вы раскрыжавалі цела!
Міністр
Што размаўляць з ім, звар'яцелым!
За рукі, ногі – і ў астрог,
Каб ён падумаць добра мог,
Што гаварыць тут, а што не!
Маршал
Агрэць мо кіем па спіне?
Дыпламат
Пасадзім лепш яго на кол,
Хай свет пабачыць навакол.
Літаратар
А мо вярнуць яго дадому?
Дыпламат
Дзе дом вар'ята – нам вядома.
Іуда
Я не вар'ят, вар'яты – вы!
Вы – мерцвякі, а я жывы!
Дыпламат
Жывы?
Смяшыць народ наш годзе,
Ужо не першае стагоддзе
Мярцвяк ты...
З той яшчэ пары,
Калі забойцаў браў дары.
Іуда
Я іх вярнуў...
Святар
Ды даравання
Табе няма нідзе, ніколі –
Хрыстовае смыліць кананне.
Іуда
Хрыста любіў я.
Так...
Міністр
Даволі!
Маршал
Табе – растрэл або пятля.
Дыпламат
Зямлю хай не паганіць тля.
Сярод людзей такім не мейсца.
Іуда

Людзей – не бачу, ці здаецца?
/узіраецца ў натоўп. Усе маўчаць. Толькі Жабрак падыходзіць да Іуды, кланяецца/

<u>Жабрак</u>
Мяне, прабачце, спадары,
Зусім дурны я і стары.
Сюды патрапіў выпадкова,
Праходжу побач – чую гам.
Не, думаю, вяселле там…
<u>Міністр</u>
/перабівае/
Табе мы не давалі слова.
<u>Жабрак</u>
Не еў амаль чатыры дні,
Паўсюль чыны – дзе ні зірні.
Магчыма, званым госцем буду,
Вось падыходжу я бліжэй
І чую шэпт сярод людзей:
Васкрос з памёрлых сам Іуда.
<u>Міністр</u>
Ідзі адсюль, жабрак дурны!
<u>Жабрак</u>
Здурнелі, думаю, яны,
З памёрлых хіба хто вяртаўся
У гэты жорсткі, чэрствы свет:
Ані міністр, ані паэт…
Камусьці прывід явай здаўся.
<u>Маршал</u>
Ідзі адсюль, кажу я, хам!
<u>Жабрак</u>
А гэты з таго свету сам
Прыйшоў да нас па добрай волі…
<u>Міністр</u>
Усё сказаў?
Цяпер – даволі…
<u>Маршал</u>
/да жабрака/
З жывога скуру я здзяру!
/да вайскоўцаў/
У кайданы яго!
<u>Міністр</u>
Не трэба,
Падайце лепш кавалак хлеба!

/падае жабраку/

Жабрак

Я хлеба ў гнюса не бяру.

/знікае ў натоўпе/

Іуда

І вас не страшыць Божы суд?

Дыпламат

Тут, на зямлі, мы самі суддзі.
І што нам Бог, і што нам людзі.

Іуда

А смерць?

Дыпламат

І смерць.

Літаратар

Каб без пакут,
Усім такой я зычу долі

Іуда

А як спазнаць жыццё без болю?
Мы ўсе – народжаныя ім.
Балюча мёртвым і жывым.

Дыпламат

Лухта.
Вакол сябе зірні.
Натоўп страшней за статак люты:
Ні сэрца, ні душы, ані…

Іуда

Калі раздзеты і разбуты,
У кут загнаны, бы пацук,
Пачнеш ты драпацца без рук.

Міністр

Ты –іншы.
З нашае сябрыны.
Мы дружна жыць з табой павінны.
Натоўп нам гэты – не раўня.

Іуда

Я не жадаю жыць і дня
З душой уласнаю не ў згодзе.

Міністр

Тады памрэш ты пры народзе.

Іуда

Памерці я не маю страху.

Міністр

/звяртаецца да ўсіх/

Што будзем з ім рабіць?

Валадар

На плаху!

Натоўп

Так яго – на плаху!

/натоўп ладзіць плаху/

Міністр

Хто згодны здзейсніць пакаранне?

Дыпламат

Я!
Найвышэйшае жаданне
Маё…
Падайце мне сякеру!

Іуда

Ды нават у цябе я веру.

/натоуп цягне Іуду на змайстраваную плаху. Да Іуды падыходзіць Жабрак. Цалуе рукі/

Жабрак

Даруй,
Адрокся я ад Бога,
Баюся нат сябе самога.

Іуда

Ідзі,
Не бойся,
Хай караюць.
Я сам сабе таго жадаю.

/Жабрак са слязьмі на вачах адыходзіць/

Дыпламат

Твой надышоў апошні міг…

Валадар

Пакаешся?
Тады даруем.

Іуда

Я неба пацалунак чую.
Як сумна мне сярод жывых…

/На пляц, на горад, апускаецца беспрасветная цемра…/

# змест

## 1. КРОКІ...

## 2. ПАЦАЛАВАЛА ЛЕТА

### 3. ВЯРТАННЕ



### 4. УВАСКРЭСЕННЕ ІУДЫ

Заключэнне

на паэтычны зборнік Анатоля Дэбіша

«Зірні ў люстэрка»

Паэт увайшоў у пару літаратурнай сталасці і майстэрства. Кожная старонка зборніка сведчыць менавіта пра гэта.

Варта ўважліва прачытаць баладу «Сарэна». каб зразумець, што Анатоль Дэбіш дастаткова ўпэўнена і віртуозна спалучае ў сваёй творчай практыцы фальклёрнае хараство з пластыкай сучаснага пісьма.

Варта прачытаць радкі:

Я зразумеў, чаму распялі Хрыста,
- Ён паэтам быў… -

каб адчуць, што аўтар умее па-свойму трактаваць евангельскую тэму трагедыі…

Драматычная ж паэма «Уваскрасенне Іуды» -- своеасаблівы шэдэўр, містэрыя вельмі блізкая па сталёвай якасці «Хамуціусу» А. Куляшова, а таксама роднасная драматургічным творам Р.Баравіковай «Саламея» і «Барбара Радзівіл». А па зместу – гэта вельмі сумная іронія ці не памылілася чалавецтва, дзве тысячы гадоў праклінаючы Іуду.

Зборнік неабходна выдаваць

Загадчык рэдакцыі арыгінальнай літаратуры
Л.Дранько-Майсюк
18 кастрычніка 2000 г.



Анатоль Дэбіш нарадзіўся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка  Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Жыў у вёсцы Андрэевічы, Гнезнаўскага сельскага Савета. У 1979 годзе скончыў Мсцібаўскую сярэднюю школу. Служыў у войску. Закончыў Мінскі інстытут культуры. Зараз жыве і працуе ў Брэсце.

Друкаваўся ў часопісах "Маладосць", "Беларусь", "Дзеяслоў", калектыўных зборніках "Дзень паэзіі", "Дзядзінец", "Берасцейскія карані", тыднёвіку "Літаратура і мастацтва", іншых выданнях. З 1993 года Сябра  ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".

Аўтар зборнікаў вершаў "Калядная вячэра""(1993), "Стодзівы" (1995).